# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 32 (294) 16 — 22 жніўня 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ





# КУДЫ ПАЙШОЎ ЗУБР?



Фота Генадзя ЖЫНКОВА
Калаж Андрэя ВАШКЕВІЧА

## *Уступ да праблемы*

Памятаю ў самым дзяцінстве, калі нас з сястрой бацькі з плошчы Перамогі, дзе мы жылі, вазілі да сваякоў у Чыжоўку, першую частку шляху мы праязджалі на трамваі (тады яны хадзілі да аўтазавода) і мы заўсёды стараліся стаць ці заняць месца з левага боку салона. Напаўдарозе, леваруч па руху трамвая, у парку з дзіўнай для мяне, маленькага, назвай — 50-цігоддзя Кастрычніка (я яшчэ не разумеў, чаму кастрычніку ўсяго толькі 50 гадоў, а, напрыклад, не колькі тысяч, як нашым продкам) стаяў каменны зубр. Не проста стаяў, а сустракаў нас. Ён быў гаспадар навакольных дрэваў, лясных сцяжын і ценяў.

— Зубр! Зубр! — з захапленнем крычалі мы з Аленкай, і стома, якая назапашвалася за дзень у нашых дзіцячых арганізмах, імгненна знікала. Людзі, што цясніліся ў трамваі, віселі на парэнчах, абавязкова азіраліся, праводзілі каменнага волата доўгім поглядам і прыцішалі свае дарожна-транспартныя амбіцыі. Упэўненасць паставы зубра, як мне здавалася, перадавалася ім. Яны лягчэй глядзелі ў будучыню, якая імкліва набліжалася разам з трамвайнымі шпаламі.

Цяпер я кожны дзень, спяшаючыся на працу, праязджаю па тым жа ўчастку маршрута ад гатэля "Турыст" да метро "Трактарны завод". Але трамваі сталі хадзіць радзей, а людзей — пабольшала. Яны атакуюць трамвай, як рыбы піраньі кавалак мяса, а свае зубы адточваюць адзін на адным. Я мару аб станцыі метро каля універмага "Беларусь"...

Цяпер ніхто і нішто не можа прыцішыць скутых цяснотцем пасажыраў у трамвайнай бляшанцы. Часта я гляджу на тое месца, дзе стаяў велічны зубр, але там толькі зарослы травою пастамент.

За якім сваім крыўдзіцелем, быццам каменны Камандор у маленькай трагедыі Пушкіна, пайшоў зубр? Хто насмеліўся абразіць цара пушчы?..

(Заканчэнне на стар. 3)

# ТРЫЦЦАТЫ

## БЕЗ КУПЮР І СКАРАЧЭННЯЎ...

**Ёсць таленты глыбокія і яркія, якія ўзбагацілі не толькі беларускую, але і сусветную культуру. Талент пісьменніка Максіма Гарэцкага акурат такі: глыбокі, прыцягальны і да канца не разгаданы. Таямніца творчасці Максіма вабіць да сябе невыпадкова, бо тэма яго твораў — чалавек ва ўсёй яго складанасці і псіхалагічнай непаўторнасці. Таму кожны новы штрых да біяграфіі пісьменніка Максіма Гарэцкага нам асабліва дарагі, таксама як і яго творы.**

***На Шостых Гарэцкіх чытаннях, што адбыліся не так даўно ў Горках Магілёўскай вобласці, прысутных уразіў даклад-выступленне пісьменніка са Смаленска Мікалая Ількевіча. Уразіў невыпадкова: упершыню былі названы прозвішчы выканаўцаў прысуду Асобай тройкі, упершыню прагучалі прозвішчы катаў Гарэцкага. Праз нейкі час ён будзе надрукаваны разам з іншымі дакладамі, што прагучалі на чытаннях, у тэзісах, што рыхтуе да выдання наш Дзяржаўны музей гісторыі літаратуры.***

***Зусім нядаўна Мікалай Ількевіч быў праездам у Мінску. Наш карэспандэнт Алена Рыгорава сустрэлася з ім, маючы на мэце атрымаць дазвол на друкаванне сенсацыйных архіўных дакументаў, а таксама з просьбай адказаць на пытанні для "К".***

*— Спадар Мікалай, у вас быў мэтанакіраваны пошук менавіта гэтых дакументаў ці вы натрапілі на іх выпадкова?*

**— Я даўно працую з архівамі ФСБ і сам супрацоўнік гэтай арганізацыі. У нас даўно такія дакументы ўказам Прэзідэнта Расіі рассакрэчаны, аднак органы Дзяржаўнай бяспекі стараліся ўнікаць знаёмства з дакументамі шырокага кола даследчыкаў. Аднак жа вядома, што Надзвычайная камісія заўсёды была арганізацыяй надзвіча акуратнай у сваёй "бухгалтэрыі", а значыць павінны недзе захоўвацца дакументы аб масавых расстрэлах і пахаваннях у 30-я гады. Паступова перада мной адкрываўся ўвесь механізм гэтай "фабрыкі смерці", які быў адпрацаваны і адладжаны "надзвычайкай".**

*— Калі можна, раскажыце падрабязней пра гэта.*

**— У 30-я гады, у час масавых рэпрэсій, узведзеных у ранг закону, у кожным абласным горадзе Расіі былі месцы, дзе знаходзіліся тайныя пахаванні расстраляных грамадзян. Напрыклад, у Смаленску — Казіныя горы, у Цверы — Меднае і г.д. У той час усе жыхары краіны ўваходзілі ў сістэму ЗАГСаў. Так што, як бачыце, усюды былі "свае людзі": і на кладзішчы, і ў ЗАГСе.**

**Што датычыць групы людзей — 40 чалавек, разам з якімі быў расстраляны Максім Гарэцкі, то іх сабралі напярэдадні ў Вязьме з усіх раённых гарадоў Смаленскай вобласці: Рослаўля, Смаленска, той жа Вязьмы. Ведаючы законы "надзвычайкі", іх надзіва строгую "бухгалтэрыю", я вырашыў, што дакументы, якія сведчаць аб расстрэле групы асуджаных, куды ўваходзіў і Максім Гарэцкі, павінны недзе абавязкова захоўвацца. І я не памыліўся: знайшоў іх у архівах ФСБ Смаленска.**

*— Чаму менавіта Максім Гарэцкі так зацікавіў вас?*

**— Мяне цікавяць перадусім лёсы беларускай інтэлігенцыі ў 30-я гады, я вывучаю матэрыялы, звязаныя з вымушаным жыхарствам у Смаленску Гаўрылы Гарэцкага, Вацлава Ластоўскага, Адама Бабарэкі, Уладзіміра Пракулевіча, Язэпа Лёсіка. Архіўныя дакументы, якія асвятляюць факты іх жыцця ў Смаленску, схаваны ад шырокага кола даследчыкаў. Я ж лічу, што яны павінны быць усім вядомыя. Зараз я закончваю кнігу аб Смаленскім перыядзе ў жыцці Гаўрылы Гарэцкага. Такія дакументы ёсць, і яны павінны быць надрукаваны, каб той час, тыя 30-я гады ніколі не паўтарыліся ні ў Расіі, ні на Беларусі. Дакументы, якія я прапаную сёння ўвазе чытачоў вашай газеты, цалкам без купюр раней нідзе не друкаваліся. Ва ўсялякім разе, што да тэрыторыі СНД, то магу сцвярджаць пэўна. Ваша газета друкуе іх упершыню.**





*Максім Гарэцкі. 1937 г.*
*(апошні прыжыццёвы фотаздымак).*
*Фота з архіва Дзяржаўнага музея гісторыі літаратуры.*

СССР
Народны Камісарыят
Унутраных Спраў
Упраўленне НКУС СССР
па Смаленскай вобласці
28/I — 1938 г.
№ 60253/8
Тэлефон-Камутатар № 30060

Цалкам сакрэтна
Начальніку асобнай аператыўнай групы УНКУС спецыяльнага аддзела старшаму лейтэнанту міліцыі — тав.Заўялаву. (Асабіста).

Прыкладаючы да гэтага вытрымкі з пратакола № 85 Пасяджэння Тройкі УНКУС С/А ад 5 студзеня 1938 года ЗАГАДВАЮ прывесці да выканання рашэнні Тройкі ў адносінах асуджаных да РАССТРЭЛУ:

1) ПУЗЫРОВАЙ Еўдакіі Аляксееўны, 2) МАСКАЛЁВА Фёдара Сямёнавіча, 3) АМЕЛІНА Апанаса Якаўлевіча, 4) ГРЫШЫНА Максіма Рыгоравіча, 5) МІШУЦІНА Івана Максімавіча, 6) МІШУТКІНА Сяргея Герасімавіча, 7) ГАРБАЧОВА Фёдара Кузьміча, 8) КЛІМКОВА Мікалая Сцяпанавіча, 9) ІВАШКІНА Трафіма Іванавіча, 10) ІВАШКІНА Карнея Іванавіча, 11) ІВАШКІНА Ларывона Мітрафанавіча, 12) ЗАХАРАВА Васіля Сідаравіча, 13) СОНЦАВА Ягора Васілевіча, 14) КОСЦІНА Андрэя Аляксеевіча, 15) ЛАЎРЭНІКАВА Фёдара Іванавіча, 16) МІХЕЕВА Максіма Арсенцевіча, 17) ЦВЯТКОВА Фёдара Міхайлавіча, 18) МАРЫЧАВА Івана Ягоравіча, 19) МАРЫЧАВА Сідара Іванавіча, 20) МІРОНАВА Васіля Максімавіча, 21) ІГНАТАВА Андрэя Сямёнавіча, 22) МАЛІНКІНА Зіновія Фінагенавіча, 23) АЛЯКСЕЕЧКІНА Яфіма Харытонавіча, 24) МЕЖАВОГА Піліпа Апанасавіча, 25) ЖАРЫКАВА Фядота Карнеевіча, 26) МАЛІНКІНА Дзям'яна Раманавіча, 27) КАВЕРАВА Іосіфа Харытонавіча, 28) КАЛАЧОВА Івана Якаўлевіча, 29) СВІСТУНОВА Барыса Канстанцінавіча, **30) ГАРЭЦКАГА МАКСІМА ІВАНАВІЧА,** 31) Цыліна Васіля Нікіфаравіча, 32) ПАЛУЯНАВА Васіля Аляксеевіча, 33) АЛЯКСЕЕВА Фёдара Сцяпанавіча, 34) ВАСІЛЬЕВА Мікалая Васілевіча, 35) БАЛАКІНА Гаўрылы Якаўлевіча, 36) КАБАНАВА Івана Васілевіча, 37) ХАВАНСКАГА Дыяніса Абрамавіча, 38) ФАМІЧОВА Лаўрэнція Іванавіча, 39) СУРАВА Якава Іванавіча, 40) БАЛЬШОВА Васіля Мікалаевіча, 41) ЯТЧАНКІ Фёдара Іванавіча, 42) ЯТЧАНКІ Югена Васілевіча, 43) АРЭШЫНА Міхаіла Фёдаравіча.

Акт аб расстрэле і вытрымкі з пратакола перадайце ў 8 Аддзел УДБ УНКУС Смал. вобласці.

Дадатак: 43 вытрымкі.

Нам. начальніка ўпраўлення НКУС Смал. вобл. капітан дзяржаўнай бяспекі ВІКТАРАЎ

ЦАЛКАМ САКРЭТНА

АКТ.

1938 года, лютага 10-га дня. Мы, тыя, хто падпісаўся, Начальнік Асобнай Аператыўнай Групы Упраўлення НКУС СССР Смаленскай вобласці — Старшы Лейтэнант Міліцыі ЗАЎЯЛАЎ, часова выконваючы абавязкі Каменданта Упраўлення НКУС СССР Смаленскай вобласці — Малодшы Лейтэнант Дзяржаўнай Бяспекі УЛАСАЎ і Памочнік Каменданта Упраўлення НКУС Смаленскай вобласці ГРЫБАЎ, сёння, на падставе загаду Нам Нач Упраўлення НКУС СССР Смаленскай вобласці — Капітана Дзяржаўнай Бяспекі тав. ВІКТАРАВА ад 28-га студзеня 1938 года пад № 60253/8, прывялі да выканання рашэнне Пасяджэння Тройкі УНКУС Смаленскай вобласці ад 5-га студзеня 1938 года (пратакол № 85) у адносінах да асуджаных да расстрэлу:

1. ПУЗЫРОВАЙ Еўдакіі Аляксееўны,
2. МАСКАЛЁВА Фёдара Сямёнавіча,
3. АМЕЛІНА Апанаса Якаўлевіча,
4. ГРЫШЫНА Максіма Рыгоравіча,
5. МІШУЦІНА Івана Максімавіча,
6. МІШУТКІНА Сяргея Герасімавіча,
7. ГАРБАЧОВА Фёдара Кузьміча,
8. КЛІМКОВА Мікалая Сцяпанавіча,
9. ІВАШКІНА Трафіма Іванавіча,
10. ІВАШКІНА Карнея Іванавіча,
11. ІВАШКІНА Ларывона Мітрафанавіча,
12. ЗАХАРАВА Васіля Сідаравіча,
13. СОНЦАВА Ягора Васілевіча,
14. КОСЦІНА Андрэя Аляксеевіча,
15. ЛАЎРЭНІКАВА Фёдара Іванавіча,
16. МІХЕЕВА Максіма Арсенцевіча,
17. ЦВЯТКОВА Фёдара Міхайлавіча,
18. МАРЫЧАВА Івана Ягоравіча,
19. МАРЫЧАВА Сідара Іванавіча,
20. МІРОНАВА Васіля Максімавіча,
21. ІГНАТАВА Андрэя Сямёнавіча,
22. МАЛІНКІНА Зіновія Фінагенавіча,
23. АЛЯКСЕЕЧКІНА Яфіма Харытонавіча,
24. МЕЖАВОГА Піліпа Апанасавіча,
25. ЖАРЫКАВА Фядота Карнеевіча,
26. МАЛІНКІНА Дзям'яна Раманавіча,
27. КАВЕРАВА Іосіфа Харытонавіча,
28. КАЛАЧОВА Івана Якаўлевіча,
29. СВІСТУНОВА Барыса Канстанцінавіча,
30. **ГАРЭЦКАГА МАКСІМА ІВАНАВІЧА.**
31. ЦЫЛІНА Васіля Нікіфаравіча,
32. ПАЛУЯНАВА Васіля Аляксеевіча,
33. АЛЯКСЕЕВА Фёдара Сцяпанавіча,
34. ВАСІЛЬЕВА Мікалая Васілевіча,
35. БАЛАКІНА Гаўрылы Якаўлевіча,
36. КАБАНАВА Івана Васілевіча,
37. ФАМІЧОВА Лаўрэнція Іванавіча,
38. СУРАВА Якава Іванавіча,
39. БАЛЬШОВА Васіля Мікалаевіча,
40. АРЭШЫНА Міхаіла Фёдаравіча.

Пералічаныя асуджаныя, усяго сорак чалавек, з месца ўтрымання пад ахоўвай былі ўзяты ў 14 гадзін 45 хвілін 10-га лютага 1938 года, а рашэнне Пасяджэння Тройкі прыведзена да выканання шляхам расстрэлу ў 15 гадзін таго ж 10-га лютага 1938 г.

Трупы закапаныя на належную глыбіню, пра што і складзены гэты акт у адным экземпляры.

Нач. асобнай апергрупы УНКУС Смал. вобласці — старшы лейтэнант міліцыі

(ЗАЎЯЛАЎ)

Часова выконваючы абавязкі каменданта УНКУС СССР Смал. вобласці — малодшы лейтэнант дзярж. бяспекі

(УЛАСАЎ)

Памочнік каменданта УНКУС СССР Смал. вобласці

(ГРЫБАЎ)

*Заўвагі да дакументаў.*
*1. Арыгіналы дакументаў — на рускай мове, газета дае ў перакладзе на беларускую.*
*2. Дакументы захоўваюцца ў архіве ФСБ РФ па Смаленскай вобласці. Справа № 4, (Арх. № 717). З актамі аб выкананні рашэння Тройкі УНКУС Смаленскай вобласці за 1937 — 1938 гг. (пратаколы № 76 — 93).*
*3. Прозвішча М.І.Гарэцкага выдзелена намі — (рэд.).*

# "КАБ НЕ БЫЛО Ў НАС ДЗВЕ ДУШЫ..."

***Відаць, няма на Беларусі такога чалавека, хто не чуў пра братоў Гарэцкіх.***

***Усё сваё жыццё Гарэцкія прысвяцілі роднай Бацькаўшчыне, ёй яны аддалі свае яркія таленты пісьменніка і вучонага. Акурат 26 чэрвеня гэтага года распачаў сваю дзейнасць фонд братоў Гарэцкіх — грамадская арганізацыя, якая мае на мэце прапаганду спадчыны Максіма і Гаўрылы. Пракаменціраваць дзейнасць новай грамадскай суполкі мы папрасілі вядомага вучонага, былога віцэ-прэзідэнта АН Беларусі, прэзідэнта ноўстворанага фонду Радзіма ГАРЭЦКАГА.***



*Удзельнікі Шостых Гарэцкіх чытанняў Зінаіда Кучар, Радзім Гарэцкі, Міхась Мушынскі (злева направа). Фота з архіва Дзяржаўнага музея гісторыі літаратуры.*

**— Радзім Гаўрылавіч, калі ўзнікла ідэя стварэння фонду братоў Гарэцкіх?**

— Напачатку была задума стварыць фонд Максіма Гарэцкага, але пасля, на чарговых, Пятых Гарэцкіх чытаннях, мы вырашылі, што павінен усё ж такі быць фонд братоў Гарэцкіх. Тым больш што брат Максіма Гаўрыла Гарэцкі — сапраўдны адраджэнец, дзяржаўны дзеяч і ягоная роля ў нашым адраджэнскім руху вялікая. Разам з Максімам у свой час яны склалі "Руска-беларускі слоўнік". Наогул дзейнасць фонду — гэта не толькі Гарэцкія чытанні, якія праводзяцца вельмі шырока, гэта яшчэ і музейная справа: музей-сядзіба, што знаходзіцца ў Багацькаўцы, і музей у Горках, якія апякуе Літаратурнае аб'яднанне музеяў. Гэта яшчэ дзейнасць па розных напрамках прапаганды спадчыны Гарэцкага.

20 мая гэтага года адбылося пасяджэнне, дзе быў абраны Прэзідыум фонду, рэвізійная камісія, зацверджаны статут і вырашаны іншыя арганізацыйныя пытанні. Дарэчы, у прэзідыум увайшлі вядомы крытык Міхась Мушынскі, Леанід Хаткевіч — дырэктар літаратурнага аб'яднання музеяў, Зінаіда Кучар — распарадчы дырэктар фонду. Увогуле фонд створаны на базе ўсёй нашай папярэдняй працы.

**— Якія цяжкасці вы сустрэлі пры стварэнні фонду?**

— Ніякіх. Міністэрства юстыцыі надзіва хутка аформіла юрыдычна наш фонд, літаральна на працягу месяца. Што датычыць цяжкасцей, то ў нас яны тыя ж, што і ўва ўсіх грамадскіх арганізацыях — фінансавыя. Міністэрства культуры раней заўсёды падтрымлівала нашы мерапрыемствы. Я маю на ўвазе ў першую чаргу Гарэцкія чытанні, якія мы праводзім штогод, але на гэты раз Шостыя давялося праводзіць без матэрыяльнай падтрымкі з боку нашага міністэрства. Усё ж такі спадзяемся, што ў будучым нам будуць дапамагаць.

Мы пашыраем геаграфію Гарэцкіх чытанняў, у наступным годзе яны будуць праходзіць хутчэй за ўсё ў Віцебску. Калі прыпомніць, дык сам Максім Гарэцкі некалі пісаў: "Трэба знаёміць заходнюю і ўсходнюю Беларусь" і лічыў, што ён належыць усёй Беларусі. Канешне, наша праца трымаецца на энтузіязме тых людзей, хто ўсведамляе значэнне творчасці братоў Гарэцкіх. Я прыгадваю выставу прыжыццёвых твораў Максіма Гарэцкага, якую падрыхтавала Раіса Думанская з выданняў, што захоўвае Нацыянальная бібліятэка. Яна ўразіла мяне, я ўпершыню ў сваім жыцці бачыў некаторыя выданні кніг Максіма Гарэцкага.

**— Хто можа стаць членам вашага фонду?**

— Кожны, хто падасць заяву. Дарэчы, юрыдычны адрас нашага фонду: вул. М.Багдановіча, 10, музей Гісторыі літаратуры, пакой 5.

**— Радзім Гаўрылавіч, раскажыце пра дзейнасць вашага бацькі.**

— Гаўрыла Гарэцкі скончыў Ціміразеўскую сельскагаспадарчую акадэмію і стаў эканамістам, працаваў загадчыкам кафедры эканомікі ў Беларускай сельгасакадэміі ў Горках. З 1927-га па 1930 год узначальваў Беларускі навукова-даследчы інстытут сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна. Менавіта гэты інстытут стаў пачынальнікам многіх інстытутаў і служб: раслінаводства, лесу, гідраметэаралогіі, жывёлагадоўлі. Бацька займаўся эканомікай, дэмаграфіяй, археалогіяй, а пасля высылкі — геалогіяй, стаў пачынальнікам навукі пра старажытныя рэкі — палеапатамалогіі.

**— Як вы ацэньваеце сённяшнюю дэмаграфічную сітуацыю нашай краіны?**

— Дэмаграфічны стан краіны цяжкі: у апошнія гады смяротнасць абганяе нараджальнасць на некалькі дзесяткаў тысяч. Да таго ж ідзе моцная асіміляцыя беларусаў як у метраполіі, так і ў эміграцыі. Не за гарамі той час, калі перад намі паўстане гамлетаўскае пытанне: "To be or not to be?". Дарэчы, гэта і было самай надзённай з праблем, якія паўсталі на II з'ездзе беларусаў свету. Так, беларусы як этнас праз некаторы час могуць знікнуць зусім. І тут ёсць над чым падумаць, і найперш дзяржаўным дзеячам.

**— Як вы спасцігалі творчасць Максіма Гарэцкага?**

— Мне было тры гады, калі мяне вывезлі з Беларусі, 40 гадоў я пражыў у Расіі і толькі пасля вярнуўся на радзіму. Таму адкрыццё творчасці Гарэцкага было для мяне асабліва важным, і я змог чытаць яго ўжо толькі ў 60-я гады, калі пачалі зноў друкаваць ягоныя творы.

**— Які ваш любімы твор Максіма Гарэцкага?**

— Аповесць "Дзве душы". Акурат у ёй ён прыкмеціў гэтую з'яву, якая была характэрна для савецкага часу: усе жылі з дзвюма душамі. Адна была напаказ, а другую, тую, што сапраўдная, трэба было хаваць падалей ад чужога вока. Адтуль з таго часу прыйшоў да нас выраз, які жыве і сёння — "гаварыць па шчырасці". Удумайцеся ў гэтыя словы! Дык што атрымліваецца: што зараз ты гаворыш шчыра, а іншым часам — хлусіш?! У гэтай аповесці, на маю думку, вельмі глыбока, філасафічна асэнсаваны той час.

**— Хто, на ваш погляд, у нашай літаратуры працягвае традыцыі Гарэцкага?**

— У нас вельмі многа яркіх таленавітых пісьменнікаў. Калі прыгадаць "На імперыялістычнай вайне" Гарэцкага, то тут паралель можна правесці з творчасцю Васіля Быкава, калі ўспомніць абразкі, адразу ўзнікаюць асацыяцыі з Янкам Брылём, дарэчы, я лічу, што гэта наш беларускі Леў Талстой па моцы таленту. Калі гаварыць пра яго як крытыка, то вартыя наступнікі — Алесь Адамовіч, Васіль Каваленка, Міхась Мушынскі, Дзмітрый Бугаёў.

**— Заснаванне фонду братоў Гарэцкіх — значная з'ява ў беларускай культуры. А які, на ваш погляд, далейшы лёс культуры Беларусі?**

— Сённяшняя сітуацыя ў нашай культуры выклікае сум перш-наперш за стан беларускай мовы, які на разе крытычны, а якая ж можа быць культура без мовы. У сувязі з гэтым пайшлі перспектывы не вельмі светлыя. На жаль, мова ў нас стала справай увогуле незапатрабаванай.

Культура — паняцце шырокае, перш-наперш гэта літаратура. Сучасныя беларускія творы — выдатныя. А якімі накладамі яны выдаюцца? — 600 паасобнікаў! Ды і тыя ляжаць у кнігарнях незапатрабаваныя. Не чытаюць на Беларусі па-беларуску!

А возьмем беларускі тэатр. Якім ён павінен быць? Браты Гарэцкія ўсё жыццё вельмі цікавіліся тэатрам, Гаўрыла, калі быў студэнтам, ствараў драматычныя гурткі і іграў у іх, Максім быў драматургам і тэатральным крытыкам. Тэатр — гэта найперш мова, аблічча, адзенне. На жаль, няма ў нас сучаснага беларускага тэатра ў высокім сэнсе гэтага слова. Ведаю нават такі абсурдны факт, што некаторыя рэпетыцыі ў беларускім тэатры праводзяцца на рускай мове — вось яны, "дзве душы".

І яшчэ. Цяпер мы гаворым пра далейшае развіццё стасункаў паміж трыма славянскімі краінамі. Але ж фактычна як мінімум 10 еўрапейскіх краін належаць да славянскага кантэксту. Ды славяне беларускія — яны ж і праваслаўныя, і каталікі, а яшчэ тут жывуць і габрэі, і палякі. Культура ўсіх народаў, што жывуць на Беларусі, і складае беларускую культуру цалкам. І да яе яшчэ трэба далучыць культуру нашай замежнай беларускай дыяспары ў Штатах і ў Канадзе і іншых краінах далёкага і блізкага замежжа — гэта ж вельмі важная духоўная з'ява.

Усцешвае апошнім часам дзейнасць нашай Беларускай капэлы. Віктар Скорабагатаў, вяртаючы нам музычную творчасць Агінскіх, Радзівілаў, Манюшкі, робіць вялікую, патрэбную справу для нашай культуры. І гэта — як трава праз асфальт, прабіваецца наша беларуская культура...

**Занатавала Алена РЫГОРАВА**

# КУДЫ ПАЙШОЎ ЗУБР?




*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Калісьці я пісаў пра жахлівы стан помнікаў і скульптур на беларускай перыферыі. Дагэтуль бачу перад сабой выяву шчаслівай, задаволенай жыццём савецкай жанчыны ў Горках... у якой даўно рассыпаліся рукі, а замест іх тырчалі ржавыя жалезныя стрыжні. Альбо помнік Леніну ў Мядзельскім раёне з рудой падмышкай, што міжвольна нараджала пытанне: "ці карыстаўся Ленін дэзадарантам". Але ж зарослы травою пастамент, дзе калісьці стаяў каменны зубр, нагадаў, што і ў сталіцы справа захавання і падтрымання ў належным стане помнікаў і скульптурных выяў ідзе не вельмі добра.

З аднаго боку — час разбурае гарады і замкі... Напрыклад у парку імя М.Горкага выразаныя з дрэва казачныя персанажы ўжо растрэскаліся, пачарнелі. Можа варта іх замяніць ці адрамантаваць, пафарбаваць?

З другога боку — шал вандалізму сядзіць у саміх людзях. Год-два таму ўвесь Мінск скаланула дзікая выхадка п'яніцы, які звярнуў хлопчыка з лебедзем у тэатральным скверы. І хоць віноўны пакараны, а помнік даўно адрамантаваны і зноў цешыць погляд прахожых, вандалізм у Мінску не пераадолены. Беднай Журавінцы, каля аднайменнага рэстарана, увогуле знеслі галаву. Ці можна апраўдаць гэткі пачварны ўчынак тым, што вакол рэстарана ідуць будаўнічыя работы, а вялікая статуя камусьці і чамусьці перашкаджала? Няхай нават яна і не з'яўляецца шэдэўрам мастацтва.

Невядомыя зламыснікі знеслі шыльды, якія абвяшчалі, што тут, у доме, знаходзіцца рэдакцыя часопіса "Крыніца". Што гэта — крадзёж дзеля здабывання металу? Хуліганства? Нярэдка можна заўважыць шыльды і памятныя дошкі, размаляваныя фарбай з аэразольнага балончыка.

Вельмі пакутуюць помнікі і розныя архітэктурныя ансамблі Мінска ад гаспадарчай, дакладней, безгаспадарчай, дзейнасці чалавека. Асабліва гэта тычыцца фантанаў. Так, эканамічны крызіс. Шмат фантанаў не працуе. Некаторыя з іх выконвалі акрамя эстэтычнай функцыі ўпрыгожвання горада яшчэ і чыста практычную — адводзілі непатрэбнае цяпло з памяшканняў. Гэтак на вуліцы Крапоткіна перад былым Галаўным вылічальным цэнтрам аграпрома БССР быў фантан, які ўключалі... электроншчыкі-наладчыкі, калі заўважалі, што вялізныя вылічальныя машыны пераграваюцца, тонкія правадкі і мікрасхемы не вытрымліваюць напружаннага "думання", у іх падвышаецца тэмпература, і вось тады на дапамогу прыходзіў фантан... Даўно разабраныя вялікія шафы вылічальных машын, яны саступілі месца больш зручным і больш танным у эксплуатацыі персанальным камп'ютэрам. Але разам з груваcткімі вылічальнікамі загінуў прыгожы фантан. Цяпер там проста яміна, што паступова пераўтвараецца ў сметніцу. Бруд — бяда ўсіх фантанаў. Яны пакрываюцца цвіллю, і калі вады доўга няма, яна пачынае смярдзець.

Памятаю, аднойчы мой сябар гуляў са сваёй дзяўчынай каля фантана перад канцэртнай залай "Мінск", яны нахіліліся, каб паглядзецца ў ваду, і ў яго з кішэні выпалі акуляры. Ён хацеў быў іх дастаць, але аднекуль выскачыў міліцыянер і папярэдзіў, што калі той паспрабуе "сунуцца" ў фантан, ён яго пасадзіць на пятнаццаць сутак за дробнае хуліганства. Дзеянні фантаннага цэрбера ў фуражцы выклікалі, мякка кажучы, неразуменне — нашто пакідаць у фантане акуляры? Але як мы ні даказвалі гэты відавочны нонсэнс, міліцыянер не дапусціў нас да воднай гладзі фантана. На наступны дзень дзяжурыў іншы ахоўнік парадку, і калі мы растлумачылі ў чым справа, ён сам прынёс з кладоўкі спецыяльны вялікі сачок і дапамог вылавіць акуляры. Але ж якое нашае было здзіўленне, калі побач з акулярамі ў фантане былі бітая цэгла, цэлафанавы пакет, шкло ад пабітых ліхтароў, што слепа тырчэлі абапал фантана. А гэта, магчыма, адзіны фантан, які ахоўваецца міліцыяй! Чым займаюцца большасць нашых ахоўнікаў парадку, акрамя таго, што дэманструюць сваю ўладу над другімі людзьмі, як у выпадку з папярэднім дзяжурным па фантане, — невядома.

Аднак вандалізм ніякімі забаронамі і штрафамі не спыніш. Псіхолагі кажуць, што яго спараджае падсвядомая цяга слабага чалавека самасцвердзіцца, паказаць самому сабе, няхай і на бездапаможных скульптурах, сваю моц. Так, нашыя людзі слабыя, бо выхаваныя быць малымі "шрубчыкамі" вялікай дзяржаўнай махіны, дзе былі сцёртыя ўсе нацыянальныя каштоўнасці. Чалавек не ведаў сваёй прыналежнасці да пэўнага народа, да яго скарбаў, да яго ўяўлення аб прыгожым. А менавіта тая моц сваёй зямлі, свайго мікрасвету, якую мелі нашыя продкі і перадавалі з пакалення ў пакаленне, вучыла павазе да сваіх каштоўнасцяў і да тых, якія былі зробленыя іншымі людзьмі, іншымі народамі. Дэнацыяналізацыя культурнай спадчыны і прывялі да таго, што абшар былога СССР пераўтварыўся ў тэрыторыю вандалізму. Ні ў якой краіне свету, дзе мне давялося пабываць, я не бачыў гэткага "наплявацельскага-абывацельскага" стаўлення людзей да свайго культурнага, сацыяльнага і прыроднага асяроддзя.

* * *

Едучы сёння ў трамваі, я зноў убачыў зарослы травою пастамент. І раптам зразумеў, куды пайшоў зубр.

Сцеражыся, вандал, трапячы! Аднойчы ноччу адкрыюцца дзверы тваёй кватэры і да цябе прыйдзе каменны госць.

**Серж МІНСКЕВІЧ**

**P.S.** Японскі пісьменнік Юкіа Месіма выказаў гэткую думку: "Увесну людзі маюць звычай выкідаць непатрэбныя рэчы, а раз у сто гадоў самі рэчы выкідаюць людзей". Здаецца наспеў час стварыць грамадскую камісію і правесці ў Мінску агульную інвентарызацыю помнікаў, скульптурных і архітэктурных ансамбляў і вырашыць, што адрамантаваць, замяніць, ачысціць альбо выкінуць.

**С.М.**

№ 32 16 — 22 жніўня 1997 г.

MULTUM IN PARVO

# ЦІ БУДУЦЬ СВАЕ "...ІМГНЕННІ ВЯСНЫ"?

**"Кінематаграфістам яшчэ добра памятныя часы, калі галіна наша па прыбытковасці займала ў краіне трэцяе месца пасля... гарэлкі і тытуню. Але ў адрозненне ад іх несла людзям выключна станоўчы эмацыянальны зарад". Гэтыя словы славутага нашага кінарэжысёра Віктара Турава распачыналі прыжыццёвы яго леташні артыкул аб праблемах беларускага кінематографа.**

У будучым годзе кінастудыі "Беларусьфільм" — 70 гадоў. Тэрмін для айчыннага кінамастацтва дастаткова паважаны, калі ўлічыць, што сусветнаму кінематографу ўсяго толькі 100! І нам ёсць чым ганарыцца, такія славутыя імёны майстроў-стваральнікаў нацыянальнага кіно, як Тарыч, Гардзін, Корш-Саблін, Файнцымер, Дабралюбаў, Голуб, Пташук, Дашук, Чацверыкоў і многія іншыя залатымі літарамі ўпісаны ў айчынную культуру. А карціны, створаныя на "Беларусьфільме"! Вось толькі некаторыя з назваў: "Мядзведзь", "Чырвонае лісце", "Дзяўчынка шукае бацьку", "Масква — Генуя", "Альпійская балада", "Я родам з дзяцінства", "Дзікае паляванне караля Стаха", "Вянок санетаў", "Наш бранявоезд". Не кажучы ўжо пра выдатныя дзіцячыя стужкі, кшталту "Прыгоды Бураціна", "Па сакрэту ўсяму свету" і іншыя, якія ў розных краінах зямнога шара атрымалі шырокае прызнанне.

І гэта справядліва. Стужкі кінастудыі заўсёды адрозніваліся высокай прафесійнай культурай, яркай грамадзянскасцю, гуманізмам. Аднак, час ідзе. І вастрэйшыя сацыяльна-эканамічныя праблемы, якія скаланулі краіну ў апошняе дзесяцігоддзе, не абмінулі і старэйшы бастыён нацыянальнага кінематографа.

"З усіх мастацтваў для нас важнейшым з'яўляецца кіно...", — сказаў вядомы класік рэвалюцыі. І ён меў рацыю, настолькі меў, што гэтыя словы не страцілі сваёй актуальнасці і сёння.




*У час сустрэчы на "Беларусьфільме". Заслужаны дзеяч мастацтваў, кінарэжысёр Маргарыта Касымава расказвае Аляксандру Лукашэнку пра сваю новую стужку.*

Але справа ідзе да таго, што мы можам, пастаянна іх паўтараючы як малітву, практычна згубіць гэтую магутную творча-вытворчую базу, якая дзесяцігоддзямі з'яўлялася бліскучай школай выхавання не аднаго пакалення беларусаў у духу сапраўднай любові да айчыны.

Праблемы выжывання кінастудыі хвалююць сёння не толькі яе супрацоўнікаў і ўсіх тых, хто непасрэдна звязаны з кінавытворчасцю. Яны хвалююць і вышэйшыя эшалоны ўлады, якія разумеюць, што без матэрыяльных сродкаў — а гэта сёння самае галоўнае! — на стварэнне фільмаў, тэхніку, адпаведную аплату працы кінематаграфістаў студыі не выжыць.

8 жніўня кінастудыю "Беларусьфільм" наведаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. У час сустрэчы, якая доўжылася чатыры гадзіны замест запланаваных дзвюх, кіраўнік дзяржавы агледзеў асноўныя цэхі кінагаспадаркі. І карціна, проста скажам, у служыцеля "адвечнага нямога" далёка не радасная. Кінастудыя мае вастрэйшую праблему, напрыклад, у спецыяльным праектары, пры дапамозе якога кінастужку можна якасна перагнаць на відэакасеты з мэтай далейшага распаўсюджання. Але ж гэта толькі адна з праблем, не вырашыўшы якую, беларускія кінатворцы нават і ў думках не змогуць прэтэндаваць на канкурэнтаздольнасць у сусветным кінарынку. А нашы мультыплікатары? Тысячы і тысячы малюнкаў "ад рукі" для адной толькі "мульцяшкі" даводзіцца рабіць мастакам, каб нарадзіць сімпатычнае відовішча. Так, без адпаведных камп'ютэраў сёння немагчыма ствараць паўнавартасную анімацыю.

"Беларусьфільм" ганарыўся ў свой час адметнай дакументалістыкай. І тут гаворка на кінастудыі зайшла не толькі пра суперовыя кінакамеры, а і пра тое, што на сеансах у кінатэатрах проста неабходна паказваць дакументальныя фільмы айчыннай вытворчасці, як гэта калісьці практыкавалася.

Праблема параджае праблему. І вось тут нельга не прыгадаць тыя праблемы, пра якія год таму гаварыў Віктар Тураў. Яны, дарэчы, і сёння рубам стаяць перад беларускім кінематографам. А справа вось у чым. Парушана натуральная трыяда: творчасць — кінавытворчасць — пракат. У свой час "з кінасістэмы была выключана ўся сетка дзяржаўных кінатэатраў, пабудаваных, нагадаю, на народныя сродкі, якая імгненна трапіла ў рукі дзялкоў, — гаварыў кінарэжысёр. — Як вынік, шлях на экран для айчынных кінафільмаў аказаўся перакрытым патокам замежных кінастужак, у асноўным амерыканскага паходжання. Я далёкі ад думкі, што замежныя карціны ў нас дэманстраваць не варта. Я за правільны, разумны іх адбор... Дарэчы, палохае мяне гэты кінахаос не толькі тым, што добра падсечанымі аказаліся карані айчыннага кіно, што грошы нашага кінагледача па сутнасці фінансуюць замежнага канвеернага "мас-культурнага" кінематографа. Жахліва, што падобнага роду "мастацтва" робіць выгляд, што нібыта яно і ёсць сапраўднае кіно, скалечваючы душы і псіхіку нашага народа, у першую чаргу маладога пакалення...".

Несумненна, альянс кінавытворчасць — кінапракат вымагае грунтоўнай рэарганізацыі. І над гэтым сёння працуе Міністэрства культуры.

Мне ж асабіста ўзгадаліся тыя "рэпрэсіўныя" меры, да якіх вымушана была звяртацца ў свой час Францыя, каб пазбегнуць засілля амерыканскага кінематографа. Блакада яго і нарадзіла сітуацыю, якую французы сёння маюць: кінапрадукцыя гэтай дзяржавы — адна з лепшых у свеце. І зразумела, французы — шчырыя патрыёты айчыннай кінапрадукцыі.

Так, несумненна цяжка беларускаму кінематографу, і ўсё ж засталася на "Беларусьфільме" кагорта апантаных, у тым ліку і сярэдняга звяна кінаспецыялістаў, без якіх немагчыма рэалізаваць нават самыя геніяльныя задумкі. Вядома, што ў лепшыя часы на кінастудыі здымалася ў сярэднім шэсць мастацкіх стужак па дзяржзамовах, а сёння здымаецца тры з паловай, дзякуючы той жа дзяржзамове, якая безумоўна падтрымлівае пульс цяжкадыхаючага "кінабраняносца". І каб не замежныя інвестары, якія ствараюць сумесныя з намі фільмы, дык невядома, што б сталася з кінастудыяй наогул. Ды і з сустрэчы з кіраўніком дзяржавы вынікае: Прэзідэнт выдаткоўвае мільён долараў на самае набходнае абсталяванне. "Кіно — гэта вельмі важна, важней чым нават многія эканамічныя працэсы, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Яго непасрэднае ўздзеянне на чалавека адаб'ецца і на эканоміцы". Гатовы кіраўнік дзяржавы прафінансаваць і нараджэнне новага айчыннага касавага фільма, які б захапіў масавую кінааўдыторыю, як, напрыклад, у свой час "Семнаццаць імгненняў вясны". Але Прэзідэнт задаў рэзоннае пытанне: ці ёсць на кінастудыі такі сцэнарый, які б мог выклікаць ажыятаж у кіназалах не толькі Беларусі, але і іншых краін свету? Ці можа, напрыклад, прапанаваць "Беларусьфільм" альтэрнатыву той жа стужцы Яўгена Матвеева "Любіць па-руску"? Чаму тысячы долараў былі аддадзены на гэты фільм, а не на твор айчынных кінематаграфістаў? Аляксандр Лукашэнка паабяцаў сваю падтрымку і на творчыя планы. Але ж перш чым выдаткаваць дадатковыя сродкі на новы фільм, кінематаграфістам трэба прадаставіць сцэнарый, каб праблематыка яго была выключна актуальнай і важнай для дзяржавы. Дык ці ёсць такі сцэнарый? Як запэўнілі кіраўнікі кінаіндустрыі, у планах "Беларусьфільма" — стварэнне стужкі, якая зможа стаць кінабестселерам. Цяпер ідзе арганізацыйная і падрыхтоўчая работа з аўтарамі вядомага папулярнага літаратурнага твора і сцэнарыстам.

На сустрэчы кінематаграфістаў і Прэзідэнта абмяркоўваліся і іншыя надзённыя пытанні, якія хвалююць кінастудыю. Спадзяемся, што найбольш вострыя з іх, неўзабаве, будуць вырашаны дзякуючы дзяржаве. Двухбаковыя абяцанні прагучалі. І цяпер застаецца чакаць сваіх уласных "...імгненняў вясны".

**Наш кар.**
**Фота Аляксандра КАЗАЗАЕВ**




***ТЭЛЕГРАМА З РЭДАКЦЫІ***

*Каму: газета "Звязда"*
*Ад каго: газета "Культура"*

ВІНШУЕМ ВАСЬМІДЗЕСЯЦІГОДДЗЕМ КЛЧ ВЫПІСВАЕМ КСК ЧЫТАЕМ КСК ПАВАЖАЕМ КРП ЖАДАЕМ ПЛЁНУ КСК ДАЎГАЛЕЦЦЯ КРП
КУЛЬТУРА КРП

**Сябры, выпісвайце газету "Звязда" і, вядома ж, "Культуру"!**

# ВЯЛІКІ ТРЫЦЦАЦІГАЛОВЫ ЗМЕЙ

У галерэі "Брама" адкрылася новая выстава Генадзя Гурвіча — "Мастацтва выжывання". Тут размешчаны акварэльныя працы, зробленыя на працягу года.

"Мастацтва выжывання" — гэта перш за ўсё мастацтва, якое імкнецца дакрануцца да нашага розуму, спатоліць наш душэўны голад. Экспазіцыя ўражвае колькасцю твораў, нібыта гэта ўжо і не асобныя працы, а вялікі трыццацігаловы змей. Мастацкія слоікі, падвешаныя да столі, — вочы і вушы гэтага таямнічага звера. Здаецца, яшчэ адно імгненне — і стварэнне ажыве, заварушыцца, загаворыць на сваёй экзатычнай мове. Нездарма ж адна з прадстаўленых серый мае назву "301-е пакаленне". Я б параіў наведнікам вельмі асцярожна заглядваць у слоікі-вочы і слоікі-вушы, бо адтуль можа выскачыць тварык балотнага філосафа альбо паразіт — паглынальнік вітамінаў. Не трэба цешыць сябе думкай, што экстравагантныя вочы і вушы закаркаваныя... Паглядзіце больш уважліва... Там ёсць маленькая шыльдачка, якая папярэджвае: "прыгодны да..." Заўважце — тры кропкі. Яны і ствараюць уражанне, што тамтэйшыя істоты ўжо нарадзіліся.



*"Рабі раз..." З цыкла "Мастацтва выжывання".*

Можна мастацкую звяругу і палашчыць, для гэта варта толькі падысці да вісячага століка і ў спецыяльную кнігу запісаць свае пажаданні Генадзю Гурвічу. Там ужо ёсць наступныя запісы наведнікаў: "Каб у вас было шмат карцін", "Малюйце! Мая душа з вамі". Я таксама не стрымаўся і пакінуў гэткі запіс: "Надаем статус бумбамлітаўца".

Запамінаюцца працы, якія фармуюць хвост мастацкай звяругі. У гэтым месцы можна пабачыць і сябе ў люстэрку і параўнаць свой твар з суседнім — намаляваным.

Коўзаюцца па скуры экспазіцыі і ўсялякія падазроныя мандалы. Часам яны выпучваюць вочы, часам выгінаюць хвосцікі —"Мандала адсутнасці", "Мандала "ізмаў" і інш. Гэтыя мандалчыкі нагадваюць чымсьці аксамітных фтырусаў. Мабыць, таму гэтак доўга наведнікі затрымліваюцца каля іх — бо сёння гэта экзотыка.

Наведнікам застаецца толькі падзякаваць галерэі сучаснага мастацтва "А.В.", якая дапамагла залай беспрытульнай "Браме". А Генадзю Гурвічу — арганізатару выставы (і канцэпцы) Ларысе Фінкельштэйн. Бо было б вельмі шкада, каб вышэй апісаная звяруга не займела свайго прытулку.

**Аматар заапаркаў**
**Зміцер ВОЛКАЎ**



*"Мандала адсутнасці".*

**Да 600-годдзя пасялення татараў на Беларусі**

# ПЯТНІЦА

Неяк я заўважыў, што мае сябры татары чамусьці найчасцей запрашаюць мяне да сябе ў госці менавіта ў пятніцу. Мы ведаем, што гэта пяты пасля нядзелі дзень тыдня. Зусім нядаўна непрацоўным днём наша насельніцтва мела толькі нядзелю ды яшчэ дзяржаўныя святы, а потым пры Леанідзе Іллічы Брэжневе атрымала дадатковы выхадны дзень — суботу. Што цікава, у яўрэяў субота святкуецца штотыднёва і з'яўляецца днём адпачынку. Дык вось, аказваецца, як у хрысціян нядзеля, у іудзеяў субота, пятніца ў татараў-мусульман з'яўляецца асаблівым днём. Дадам, што ў арабаў яна з'яўляецца афіцыйным днём адпачынку.

У пятніцу татары-мусульмане абавязаны наведаць мячэць або малітоўны дом для здзяйснення малітваў, якія ў гэты дзень абстаўляюцца незвычайна ўзнёсла і ўрачыста. Як напісана ў літаратуры: "Менавіта па пятніцах адбываюцца вялікія паўдзённыя грамадскія малітвы, людзі апранаюць святочнае адзенне, гатуюць больш багатую і смачную ежу, запрашаюць адзін аднаго ў госці".

А гэтую цытату я ўзяў ад сваіх добрых знаёмых Станіслава Думіна (вучоны з Масквы) і Ібрагіма Канапацкага (вучоны і педагог з Мінска) з іх кнігі "Беларускія татары: мінулае і сучаснасць": "З сямі дзён тыдня беларускія татары, як і ўсе мусульмане, лічаць пятніцу (джума) святочным днём. Гэта дзень адпачынку ад фізічнай працы, але дзень узмоцненай працы духоўнай. Вернікі наведваюць мячэць, каб пад кіраўніцтвам імама завяршыць намаз (малітву)".

Ад тых жа маіх сяброў-татараў, а таксама з мусульманскай літаратуры, можна даведацца, што менавіта ў пятніцу сам прарок Мухамед (як раней пісалі — Магамет), пакланяўся гэтаму дню і шанаваў яго, што ў гэты пяты дзень тыдня ён упершыню ў свеце ўтварыў грамадскі намаз (малітву).

Па тых жа паданнях, прарок Мухамед (заснавальнік ісламу, кіраўнік першай арабскай дзяржавы, 570 — 632 гады) і яго зяць Алі нарадзіліся ў пятніцу і "святло ісламу" пачалі распаўсюджваць таксама ў гэты дзень тыдня.

Мусульмане вераць, што і дзень страшнага суда таксама прыйдзецца на пятніцу.

І яшчэ. Чым адметная пятніца для маіх сяброў татараў-мусульманаў? У пятніцу, 1-га чысла мухарэму, гэта значыць першага чысла першага месяца паводле месяцовага года (у першы дзень мусульманскага года) адбыўся ад'езд Мухамеда з Меккі ў Медыну (622 год, які прыняты ў ісламе першым годам мусульманскага летазлічэння). Дык вось, 1997 год, паводле іх разліку, — гэта 1418 год.

Так што нездарма пятніца ў мусульман з'яўляецца штотыднёвым святочным днём, і я ўжо не здзіўляюся, калі менавіта ў пятніцу атрымоўваю ад іх запрашэнне.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ, правадзейны член Геаграфічнага таварыства.**
*Баранавічы*

# "PEACE ON EARTH"

Сяргей Панізьнік з яго няпростым, пакручастым творчым і жыццёвым лёсам успрымаецца мною як зайздросны прыклад. І вось у чым — у заўсёдным імкненні паэта паяднаць розныя народы, розныя культуры. Вызначаецца гэта не толькі і зусім не ў эгаістычным (праўда, "эгаістычны" — слова для іншых) перакладчыцкім клопаце. Сяргей Панізьнік перакладае блізкія сабе ці то па духу, ці то па сутнасці вершы паэтаў суседніх краін. Адкрываючы паэтычнае светабачанне іншых народаў, Сяргей Панізьнік старанна вывучае міжнацыянальныя культурныя, літаратурныя сувязі. Паэт з'яўляецца публікатарам многіх твораў беларусаў замежжа. Выразнай праявай братэрскай руплівасці творцы, грамадскім учынкам сталася новая яго кніга — "Сустрэча роднасных сусветаў". А пабачыў зборнік свет у серыі "Ад сэрца да сэрца" Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францыска Скарыны (Мінск, 1997).

Складаецца кніга з трох раздзелаў. У першым — "Мір на зямлі" — верш Дагмар Волкат "Чатыры чэшскія браты", перакладзены Сяргеем Панізьнікам на беларускую мову. Чаму такая ўвага аднаму твору? Сяргей Панізьнік пазнаёміўся з паэткай з Амерыкі ў летняй школе славяназнаўства ў Празе. І цяпер ужо — слова паэту: "... паспрабаваў перакласці верш Дагмар Волкат "Чатыры чэшскія браты", які яна прысвяціла бацьку.

Дарэчы, гэты верш аўтаркі ўдастоены ў Агаё літаратурнай прэміі.

На многіх паштоўках з далёкага Калумбуса Дагмар Волкат пакідала значок-наклейку, на якой быў надпіс: "Peace on Earth" — "Мір на Зямлі". Мір на Зямлі... З гэтымі словамі хочацца жыць і працаваць. Асабліва зараз, калі Беларусь займае "свой пачэсны пасад між народамі".



*Сяргей Панізьнік.*

Другі раздзел — "Мы — нераздымнасць..." — вершы паэтаў свету ў перакладзе Сяргея Панізьніка на беларускую мову. Азербайджан, Венгрыя, В'етнам, Грузія, Казахстан, Кыргызстан, Латвія, Малдова, Расія, Славакія, Туркменістан, Украіна, Чэхія — цэлы сусвет, сабраны разам. А завяршаюць кнігу вершы Сяргея Панізьніка, перакладзеныя на іншыя мовы свету, — на англійскую і рускую, балгарскую і латышскую... Вопыт кнігі, складзенай Сяргеем Панізьнікам, — унікальны для Беларусі. А вось руплі́ўцаў, што яднаюць паэзію многіх народаў, іх культуру, — вельмі шмат. Як правіла, на перакладчыцкую руплівасць здольныя асобы шматгранныя, вялікія і ў арыгінальнай творчасці.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Майстрам Залатыя Рукі называюць у Оршы народнага ўмельца, інваліда II групы Уладзіміра Гапеенку. Ягоныя вырабы з лазы: фатэлі, крэслы, вазы, кошыкі і г.д. карыстаюцца вялікім попытам у гараджан.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**





Самы знакаміты з гарадскіх помнікаў старажытнасці ў Оршы — Куцеінскі Богаяўленскі кляштар на левым беразе Дняпра. Пачатак ягонай гісторыі сягае да 1620 года, калі ад патрыярха Іерусалімскага Феафана была атрымана грамата на заснаванне праваслаўнага манастыра.

Сёння ў Куцейне захаваўся і дзейнічае адзін з помнікаў беларускага барока — Святадухаўская царква (на здымку).

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

# УЗОР КАНЦЫЛЯРСКАГА МАЙСТЭРСТВА

Відавочна, што ёсць вялікая, істотная розніца паміж тым, якой ручкай пісаць і на якой паперы. Прыгожы блакнот, прыгожы каляндар на стале — усё гэта, безумоўна, рашуча ўплывае на эстэтыку, калі хочаце, нават на духоўнасць паводзін чыноўніка, адміністратара, чалавека, вымушанага запісваць, пазначаць, весці бухгалтэрыю і канцылярыю.

Сучасны рынак паліграфічных паслуг багаты на розную, усялякую, самую разнастайную прадукцыю. І, здавалася б, спажыўца ўжо нічым не здзівіць. Ды не... Здзівіў і парадаваў гэтым разам "Паліфакт", паліграфічную і іншую славу якому прынеслі многія праекты. Адзін з апошніх праектаў — набор з алфавітнай кніжкі "Беларуская пісьменнасць", штодзённіка "Архітэктура Беларусі" (апошні выкананы ў двух памерах), календара-тыднёвіка "Народныя рамёствы".

Мала сказаць, што выдаўцы, паліграфісты праявілі густ, выканалі задуманае на высокім творчым узроўні (ідэя, распрацоўка належаць мастачцы Таццяне Няхай, але, відавочна, што без энергіі кіраўніка "Паліфакта" Яўгена Будзінаса тут не абышлося). Трэба адкрыць, перагарнуць старонкі календара-тыднёвіка, алфавітнай кніжкі, штодзённіка. А патрапіўшы вокам на старонкі гэтых не зусім канцылярскіх выданняў, а хутчэй — сапраўдных кніг, на якіх сорамна нешта крэмзаць, нельга адарвацца. І не толькі з-за вонкавай прыгажосці. Палоніць, захапляе слова, выкладзенае ў кнігах "Паліфакта". Вось, прыкладам, каляндар-тыднёвік "Народныя рамёствы" на 1997 год. Першая студзеньская сямідзёнка. На зваротным баку старонка прысвечана ганчарству. Побач са старадаўняй гравюрай — ці не найлепшая прымаўка пра гэтае рамяство: "Не святыя гаршкі лепяць". А напрыканцы — лаканічны інфармацыйны тэкст пра ганчарства. Вось для недасведчанага чалавека і адукацыя. Наступны блок — пра земляробства. ("Пакланіся кусту, дык ён дасць хлеба лусту"). Якое ж яно, земляробства, па вызначэнні "Паліфакта"? "Земляробства — на тэрыторыі сучаснай Беларусі налічвае амаль 4000 гадоў. Галоўныя земляробчыя прылады — саха, рала, барана, серп, каса, вілы, цэп. Традыцыйныя збожжавыя культуры — жыта, пшаніца, ячмень, авёс, грэчка, проса. Бульба на нашых палетках з'явілася ў XVII ст. Ворыўнае земляробства абумовіла развіццё конегадоўлі, стварэнне народнага календара, змены ландшафту, узнікненне мноства прыкладных навук". Справа не ў вычарпальнасці закладзенай у тыднёвік інфармацыі, а ў тым, што яна нязмушана кідаецца ў вочы. За земляробствам ідуць цяслярства ("Лес па сякеры не плача"), іканапіс ("Калі б'е трывога, пабяжыш і да Бога"), кавальства ("Багаты зажабрue, а каваль запануе"), выраб музычных інструментаў ("Без скрыпачкі, без дуды ходзяць ногі не туды"), друкарства ("Не пішы пяром, а пішы ўмом), ткацтва ("Якая праха, такое і палатно ляжа"), пляценне ("Без начыння і лапця не спляцеш")...

Уражвае і штодзённік "Архітэктура Беларусі" (мастакі — Т.Няхай і Я.Галуза, ідэя Т.Няхай). На кожнай старонцы для запісаў — выява, някідкі адбітак пэўнага архітэктурнага помніка нашай Айчыны. Акрамя таго, штодзённік падзелены на раздзелы, якія, у сваю чаргу, адкрываюцца паэтычнымі эпіграфамі. Рэй пачынае Купала:

*Ад прадзедаў спакон вякоў...*

Пра любоў да Айчыны — у вершах Максіма Багдановіча, Пімена Панчанкі, Алеся Звонака... Сапраўдны ўрок паэзіі!

Паліграфічная культура "Паліфакта" не проста ўсцешвае — яна сцвярджае, што і ў такой канцылярскай, здавалася б, справе можна не абмінуць увагай беларушчыну, нацыянальнае, роднае.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**



На вуліцы Воінаў-інтэрнацыяналістаў у Віцебску адкрыўся мемарыяльны комплекс у гонар тых, хто паклаў галовы ў афганскай вайне. Помнік узведзены паводле праекта творчай групы скульптара Іван Казака.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

№ 32 16 — 22 жніўня 1997 г.

TEMPUS FUGIT

# А ПАЧАЛОСЯ ЎСЁ Ў 1917 ГОДЗЕ...

*(Заканчэнне. Пачатак у № 31)*

Ну, а мой лёс пасля Гомеля склаўся наступным чынам. У 1926 годзе я дэмабілізаваўся з Чырвонай Арміі і стаў настаўнікам малявання ў пачатковай школе, марачы, натуральна, пра вялікае мастацтва. І праз год — рызыкнуў. Паехаў паступаць у маскоўскі ВХУТЕМАС. За плячыма — толькі школа майго настаўніка Сяргея Грамыкі, вопыту і ўмення ў акадэмічным малюнку — амаль што няма. Але тым не менш — вырашыў паспытаць шчасця. Памятаю, падчас іспыту па жывапісе нам паставілі нацюрморт, ён быў даволі беспрадметны і спалучаў у сабе будучыя заданні на колер, аб'ём і фактуру. Пісалі яго на працягу трох сеансаў. Я выканаў заданне даволі хутка і астатні час рабіў выгляд, што заканчваю працу.

На іспыце па малюнку, атрымаўшы аркуш паперы, я пачаў маляваць аголеную натуру — першую ў маім жыцці. Натуршчыцу звалі Надзя Асіповіч. Казалі, што раней яна пазіравала ў студыі Іллі Машкова. Я хутка намаляваў яе з пэўнай доляй шаржу, скончыў малюнак падтушаванымі дужкамі, не ведаючы, што рабіць далей. Я назіраў, як побач гумкай мае таварышы праціралі паперу да дзірак.

Да мяне падышоў Паўлінаў і, агледзеўшы малюнак, прапанаваў зрабіць на гэтай жа паперы іншы.

Як я вытрымаў уступныя іспыты па іншых прадметах — ведае адзін Бог.

Тады пры паступленні ў ВХУТЕМАС ільготамі карысталіся рабфакаўцы, якіх прымалі без уступных экзаменаў і якія складалі асноўную масу абітурыентаў. Астатнія дапускаліся да іспытаў па прафсаюзных пуцёўках, і толькі невялікая колькасць месцаў пакідалася для тых, хто паступаў па конкурсе. У ліку апошніх быў і я.

Карацей, я быў прыняты і залічаны на жывапісны факультэт. А ўсяго было сем факультэтаў, у тым ліку жывапісны — з трыма аддзяленнямі: станковага жывапісу, манументальнага жывапісу і тэатральна-дэкарацыйнага мастацтва.

Для мяне пачалася няпростая вучоба. Я сталеў хутка, і мае наіўныя ўяўленні пра мастацтва і жыццё хутка саступалі месца сур'ёзнаму стаўленню да жывапісу і яговых традыцый.

Сацыяльны састаў маіх калег-студэнтаў быў неверагодна стракатым. Многія прыйшлі ў інстытут проста з франтоў грамадзянскай вайны, некаторыя ўдзельнічалі і ў імперыялістычнай. Былі студэнты з правінцыйных ускраін Расіі, вялікі працэнт складалі рабфакаўцы, і ўзрост іх вагаўся ў межах ад 18 да 40 гадоў.

Побытавая неўладкаванасць, цяжкае і галоднае жыццё ў велізарным змрочным комплексе інтэрнатаў на Мясніцкай спараджалі сярод часткі студэнтаў дэкадэнцкі настрой, дзе "ясеніншчына" адмыслова спалучалася з нэпманствам. Стракатая карціна была і ў метадах навучання, і ў праграмах, і сярод выкладчыкаў.

Акрамя жывапісу ў нас выкладаліся як самастойныя дысцыпліны прастора, аб'ём і колер. І хаця пазней іх рэзка крытыкавалі, усё ж я перакананы, што яны выхоўвалі ў будучым мастаку густ да пластычнага і кампазіцыйнага мыслення. Гэтыя дысцыпліны выкладаў архітэктар Каржоў.

Колер і ягоную тэорыю паводле Гельмгольца вёў прафесар Фёдараў. Было прыкладна так: "А магчыма, Леанарда цікавіла не таямнічая ўсмешка загадкавай жанчыны, а проста спалучэнне зялёных і блакітных таноў".

Гэта — па-"вхутемас"аўскі! Усмешкай Джаконды мы зусім не цікавіліся, бо інстытут наш трымаўся на "спалучэннях" толькі не "таноў", а "колераў". Таны ў старых майстроў — колеры ў нас. І зараз я не буду пісаць карціну, калі колеравыя рашэнні мне не цікавыя.

Хто яшчэ выкладаў у нас? Фальк, Штэрэнберг, Шаўчэнка. Сам я сябраваў з маімі равеснікамі Расціславам Барто, Пачыталавым. Як усе "вхутемас"аўцы, я насіў кашулі з адкрытым каўнерам і закасанымі рукавамі. У гэтым сэнсе Пачыталаў быў экстравагантны: прамыя доўгія рудыя валасы, зачасаныя на прамы прабор; куртка накшталт талстоўкі і вельмі шырокія зверху і вузкія ўнізе штаны. У дадатак да ўсяго — вялізны бант!


А.Шаўчэнка ў студыі імя М.Урубеля. 1921.

Некаторы час я наведваў майстэрню Аляксандра Шаўчэнкі. У адрознасць ад іншых, пастаноўкі ў яго мелі прадметна-сюжэтны характар. Я памятаю пастаноўку, дзе стол з абрусам, самавар, чайнік, хлеб, цукар, кубкі рабілі ўражанне нейкай вялізнай чайнай.

Хадзіў я і ў майстэрню Кардоўскага. Сам ён запомніўся як вельмі прыгожы чалавек: арліны нос, кучаравая барада, вогненны выразныя вочы. Капялюш, штаны "гольф", тырольскія панчохі і цяжкія чаравікі дапаўнялі элегантны вобраз.

А якія легенды існавалі пра Штэрэнберга, які выкладаў у суседняй майстэрні! Распавядалі, што ён напісаў свайго знакамітага аднаасобніка, распластаўшы мадэль на палатне і старанна абмаляваўшы вугалем ягоны сілуэт.

Аднойчы прыехалі госці: Маякоўскі, Восіп Брык, Кірсанаў і Фёдараў-Давыдаў. Сход быў шумным, Маякоўскага віталі з захапленнем. Зняўшы пінжак, ён павесіў яго на спінку крэсла. Стрыжаны дагала, паэт быў у белай кашулі і пры гальштуку. Ён і Кірсанаў чыталі вершы. Потым нас пачалі папракаць адсталасцю. Асабліва Восіп Брык. Ён казаў, што хутка "магутныя пражэктары будуць на гарадскім начным небе замацоўваць каляровыя феерыі"; што мы, студэнты, нібыта авангардысты, але "чапляемся за свінячыя пэндзлікі", заклікаў да "вытворчага" мастацтва, захапляўся сучаснымі формамі аэраплана ў і аўтамабіляў Форда. А Фёдараў-Давыдаў наогул казаў, што мастаку-станкавісту няма месца ў нашым грамадстве.

Усё гэта бянтэжыла нашыя галовы. Мы вельмі хацелі быць перадавымі, але яшчэ больш хацелі пісаць "свінячымі пэндзлікамі".

Потым узяў слова Давыд Штэрэнберг. Сэнс ягонай цудоўнай прамовы: не звяртайце ні на што ўвагі, гэта толькі вечар успамінаў, і зусім неістотна, ці будуць гэта пражэктары альбо ўсё мы будзем маляваць "свінячымі пэндзлікамі". Можна, казаў ён, малявать і цвіком, галоўнае, што сказаць і як сказаць. Апладысменты былі бурныя. Надышлі новыя часы: троху пазней Маякоўскі амніставаў Рэмбранта.

Аднойчы да нас прыехаў знакаміты мексіканскі мастак Дыега Рывера. На сустрэчы са студэнтамі ВХУТЕМАСа ён прачытаў нам па-французску лекцыю пра сучасны жывапіс. Перакладаў Давыд Пятровіч Штэрэнберг. У перапынку мы былі так узбуджаны пачутым, што ледзь-ледзь не пабіліся паміж сабой, ацэньваючы тыя або іншыя з'явы мастацтва.

Я пайшоў у майстэрню Штэрэнберга. Першая мая праца там — партрэт бялявай Стасі. Яе, аднак, пісалі ўсе. На сценах майстэрні Штэрэнберга — рэпрадукцыі Дам'е і Тынтарэта. Памятаю маіх таварышаў — Капланскага, — нязграбнага, у кепцы, з неахайна павязаным гальштукам; Сяргея Бушынскага, прыгожага, хворага, вельмі сур'ёзнага чалавека. Памятаю Зусмана. Ён прыехаў з Ленінграда, разняволены, вясёлы, выглядаў піцерскім "братком", добра чытаў вершы Маякоўскага і Віёна. Памятаю яшчэ вельмі таленавітую і прыгожую Таю Лебедзеву з рэнуараўскай грыўкай, якая пісала "пад Дзюфі і Маціса"; вясёлага і вынаходлівага Лёню Гурэвіча з Каўказа, які цудоўна танчыў лезгінку. Пасля вайны я даведаўся, што ён загінуў на фронце і яму было нададзена званне Героя Савецкага Саюза.

Сябраваў з Ванем Іваноўскім, Косцем Доражавым, які пісаў "пад Фалька", бакінцам Алікперам Рзакулиевым — які стаў пазней выдатным азербайджанскім графікам.

Карацей, карціна была стракатая, але цікавая. Калі падумаеш, што столькі было тады адораных маладых людзей і якіх цяпер так мала засталося, міжволі з'яўляецца сумная думка пра той жорсткі адбор, які робіць час.

А як віравала ў той час мастацкае жыццё! Тады ў Маскве існавала шмат мастацкіх таварыстваў і груповак, пачынаючы ад "Быцця", "ОСТа", "Макаўца" і заканчваючы "АХРР" і "ОМАХРР".

Бадай, самая вялікая выстава, прысвечаная 10-годдзю РККА, адбылася ў 1928 годзе ў залах тады яшчэ недабудаванага Галоўпаштамта. Асабліва мне запомніліся палотны Паўла Кузняцова, Васіля Якаўлева, "Смерць камісара" Кузьмы Пятрова-Водкіна і "Людзі ў рагожах" Паўла Радзімава.

Увогуле, мы не прапускалі ніводнае выставы — ні "правай", ні "левай". У той час прыхаваная барацьба накірункаў і ўстановак у мастацтве ўжо набірала моц, але пакуль яшчэ мірна суіснавалі такія супрацьлегласці, як, напрыклад, Давыд Штэрэнберг і Дзмітрый Кардоўскі.

Безумоўна, самай уплывовай і шматлікай арганізацыяй была Асацыяцыя мастакоў рэвалюцыйнай Расіі (АХРР) і арганізацыя моладзі, якая існавала пры ёй — ОМАХРР. Многія з нас, вхутемасаўцаў, уваходзілі ў яе склад, наведвалі яе студыю на Валхонцы, дзе пастаянна экспанаваліся невялікія выставы, у тым ліку і нашыя, студэнцкія. Ну і, натуральна, наведвалі музеі, асабліва музей новага заходняга мастацтва (са збораў Шчукіна і Марозава) і Музей іканапісу і жывапісу Астравухава.

Лета 1928-га я правёў у вёсцы Захаркава, каля Архангельскага, дзе я пісаў карціны і эцюды. У гэтыя гады я сябраваў з астаўцам Дабракоўскім. Ён зрабіў на мяне некаторы ўплыў, заклікаючы мяне да вялікай "інтэнсіфікацыі" выказвання. З гэтым я набыў і нейкі густ да гратэску.


А.Шаўчэнка. Пейзаж. 1927. (не захаваўся).

Мінуў яшчэ адзін год. На пачатку 30-га ўступіў у ОСТ. Мы былі на парозе новага мастацтва. ВХУТЕМАС-ВХУТЕИН ішоў да свайго фіналу. Кажуць, што ягоная праграма была адарваная ад жыцця, занадта абстрагаваная. Але тым не менш у гэтай школе панаваў дух творчай бескарыслівасці і спаборніцтва, клопаты пра цэласнае вырашэнне жывапіснага палатна, пра форму, якая адна робіць акаляючы свет каштоўным.

І вось скончыліся гады навучання. Наперадзе быў цяжкі і доўгі шлях з тупікамі і ростанямі, доўгія гады пошукаў і знаходак, памылак і ўзлётаў. І ўсё ж ВХУТЕМАС для мяне назаўжды застаўся тым компасам, які дапамог мне знайсці свой уласны шлях.

Ніколі не забудуся на маіх цудоўных педагогаў і сяброў і той няўлоўны водар незабыўнага часу, які падараваў мне лёс...

Прошу Вас, Борис Алексеевич, если в связи с этим таблом возникнут вопросы, сообщите мне заранее. Может быть, еще что-нибудь существенное вспомню.

с почтением А.Шевченко

14/IX 71 г.

**P.S.** Акім Міхайлавіч не паспеў скончыць успаміны, дзе меўся распавесці пра сваю далейшую вучобу ў Ленінградскім мастацкім інстытуце, пра вяртанне ў родныя мясціны, пра свае першыя буйныя поспехі ў мастацтве, калі ягоная карціна "Плытагоны" зрабіла сапраўдны фурор у тагачасным жывапісе "атакуючага сацрэалізму". Ён і хацеў расказаць мне пра тое, як ваяваў на франтах Вялікай Айчыннай і як складана ішло станаўленне нашага мастацтва ў першыя пасляваенныя гады...

Не паспеў... Магчыма, у гэтым ёсць і мая віна: дробязная занятасць, штодзённая мітусня, творчая "цякучка" адсоўвалі нашыя сустрэчы ці то "на заўтра", ці то "на наступную нядзелю", ці то "на потым". А "потым" ужо не надышло...

Дасюль вельмі шкадую аб гэтым...

**Барыс КРЭПАК**

***Зім мы пазнаёміліся выпадкова, у галерэі "У майстра". Бялюткі інтэр'ер галерэі, што чысцінёй і ўтульнасцю нагадвае жаночы кляштар, быў ажыўлены палотнамі самых вядомых гродзенскіх мастакоў. Маю ўвагу прыцягнула карціна, якая стаяла на падлозе: снег, яблыкі, галінка з пажухлай лістотай і кошчына пыса з сур'ёзнымі вачыма. Аўтаматычна папытаўся ў суседа справа: "Што гэта? Як называецца?" І пачуў у адказ: "Яблыкі на снезе". Толькі што прынёс"... Вось так мы і пазнаёміліся з таленавітым гродзенскім мастаком Валерыем СТЭЛЬМАХАМ, а гутарку працягнулі ў яго дома.***



# "СЯРОД САДУ ПА ЛУЖАХ ГУЛЯЕ ВАРОНА..."

**— Калі вы, Валера, скончылі Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут?**

— У 90-м...

**— А гэты вясковы дворык з пеўнем і дзядоўнікам — ваша новая карціна?**

— Так, восеньскі такі твор...

**— Восеньскі? А ў мяне ад яе нейкае сонечнае адчуванне... Валера, распавядзіце, калі ласка, як вы пішаце.**

— Па-рознаму здараецца... Іншы раз задума нараджаецца адразу, як, да прыкладу, у гэтых двух творах: "Макаўка" і "Збан". А іншы раз яна выношваецца гадамі. Але ў прынцыпе над кожнай карцінай працуеш паэтапна, пачынаючы з маленькіх эскізаў...



"Крук". Тэмпера. 1991.



"Паляванне". Аловак. 1993.

**— А ці прагназуеце вы вынік?**

— Ніколі. Нейкія фрагменты проста ў галаве трымаеш — вось і ўсё. Калі ты адразу ўявіў сабе гатовы твор, дык у цябе дакладна не атрымаецца. Гэта па-першае. А па-другое, я не люблю ўвогуле гаварыць пра нязробленую працу. Гэта замінае... Калі пра карціну пачынаеш шмат гаварыць, дакладна: нічога не зробіш!

**— Але падчас гутаркі з кімсьці, абмяркоўваючы задуму будучага твора, можна натрапіць на цікавую канцэпцыю — у мяне так здаралася... А ў вас такога не было?**

— Не.

**— А як жа з'яўляецца задума новай карціны?**

— Ідэі нараджаюцца не ў словах: вобразы круцяцца ў галаве. Але ёсць рэчы, пра якія я магу распавесці: у 91-м, увесну, я быў у Піцеры. Жыў у сябра на ўскрайку горада, у новым мікрараёне. Усё там нейкае змрочнае, шэрае. А калі падыходзіш да цэнтра горада, дык на душы весялей робіцца. І вось неяк я зайшоў у Летні сад, а там — мокра, снег яшчэ ляжыць. І дрэвы — чорныя! Паўсюль — лёд. Пад ільдом — вада, і на лёдзе — вада. А сярод саду па лужынах шпацыруе варона! Мяне гэта так уразіла: яна, нібыта Хрыстос, па вадзе ходзіць... А ў гэтай вадзе яшчэ столькі адбіткаў! Дрэвы і неба ў вадзе, на лёдзе, пад вадой... Пра ўбачанае я распавядаў сябрам, але карціну гэтую дасюль не напісаў. І не ведаю, ці ўвогуле напішу...

**— Ці не гучала ў вас у галаве ў той момант музыка?**

— Можа, і гучала, зараз дакладна не памятаю. Я проста думаў пра геніяльнасць чалавека, які стварыў гэты сад.

**— Добра, значыць, працэс стварэння новай карціны ідзе нібыта некалькімі шляхамі...**

— Безумоўна, я ўнутрана перажываю будучую карціну. Хаджу, разважаю... Памятаю, адразу пасля заканчэння інстытута напісаў карціну "З'яўленне анёла плывучым". У ёй шмат літаратурнага. Але нараджэнне канцэпцыі гэтай карціны, сам матэрыял для мяне таксама быў адкрыццём: я ніколі раней не працаваў з тэмперай. Яшчэ ў мяне ёсць карціна "Крук"...

**— Якая атрымалася незвычайная птушка! Я, увогуле, пачаў добра ставіцца да варон толькі пасля фільма "Лятучы галандзец". Глядзелі?**

— Так.

**— А гэты аўтапартрэт? У ім ёсць штосьці ад Дзюрэра...**

— Так, гэта было даўным-даўно, яшчэ ў студыі Гары Канстанцінавіча Мазурава.

**— Калі гэта было?**

— Упершыню прыйшоў да яго ў 1977 годзе, у 79-м пайшоў у войска. Затым, у 82-м, вярнуўся ў студыю і займаўся ў ёй да паступлення ў інстытут. Спачатку і не думаў пра тое, каб стаць прафесійным мастаком, проста працаваў, маляваў. Вельмі хацелася маляваць!

**— А кім працавалі тады?**

— Я скончыў будаўнічую вучэльню і адначасова наведваў студыю Мазурава.

**— Ці ёсць у вашай сям'і мастакі, акрамя вас?**

— Дваюрадны брат, Віктар Стэльмах. Жыве зараз у Рызе, там жа і вучыўся. На тры гады старэйшы за мяне.

**— Ці аказаў ён на вас уплыў?**

— Калісьці ў маленстве Віктар разам з бацькамі жыў у вёсцы каля Гродна. Я часта прыязджаў да іх, малявалі разам. Мне было тады 7 — 8 гадоў. З гэтага ўсё і пачалося. Але ў 15 гадоў раптам кінуў маляваць. Мінула паўтара гады і зноў пацягнула. Тады я і прыйшоў да Мазурава. У студыі шмат давялося пераражыць. Спачатку не збіраўся нікуды паступаць, але потым само сабой атрымалася...

**— Пасля арміі?**

— Так. Нашы хлопцы сабраліся ў Мінск паступаць ў тэатральна-мастацкі. І я паехаў з імі. Але на ўступных іспытах атрымаў дзве "двойкі".

**— Па якіх прадметах?**

— За малюнак аголенай натуры і за нацюрморт. Вось і ўсё. Паехаў, злосны на ўсё, на сябе... Але вырашыў сур'ёзна падрыхтавацца і паступаць зноў. Перарабіў увесь свой расклад, усё сваё жыццё, працу змяніў, каб вызваліць больш часу для заняткаў.

**— Кім вы пачалі працаваць?**

— Працаваў апальшчыкам у лазні. Цэлы год. І наведваў студыю, днямі сядзеў там, часта з сябрам Лёнем Петушком.

**— Як вы рыхтаваліся да паступлення ў тэатральна-мастацкі інстытут?**

— Усё засталося па-ранейшаму, проста давялося больш працаваць.

**— Над чым?**

— Малюнак, жывапіс. Гэта самае галоўнае. Менавіта тады ў мяне нарадзілася свая, ні да кога не падобная акварэль, малюнак. Мой малюнак з тае пары прынцыпова не змяніўся. Яго трэба галавой разумець, а не сэрцам. На другі раз я атрымаў усе "выдатна" на ўступных іспытах у Мінску. Але, мяркую, калі б тады ў Гродне склалася сваё кола творчых людзей, свая атмасфера, дык, мабыць, і не патрэбна было б сканчваць тэатральна-мастацкі інстытут...

**— Колькасць пераходзіць у якасць. У старажытнай Гародні ўсё спрыяе вытанчанаму ўспрыняццю: і архітэктура мінулых эпох, цудоўнае наваколле. Мабыць, тут шмат таленавітых людзей, моладзі, з якой абавязкова атрымаюцца вядомыя літаратары, жывапісцы, музыканты... Ці зараз усё ў нас знаходзіцца пад ціскам "дзікага рынку"?**

— Не, мне падаецца, у нас ідзе працэс назапашвання. Зараз я выкладаю ў Гродзенскім універсітэце на кафедры выяўленчага мастацтва, адтуль усё гэта неяк больш заўважаецца...

**— Што вы выкладаеце?**

— Малюнак.

**— Зноў малюнак! Каго з сучасных гродзенскіх мастакоў, якія адчуваюць асаблівыя "эфіры" нашага старажытнага горада, вы б маглі адзначыць?**

— Мне падабаюцца творы Валі Шоба, Пятра Янушкевіча, Валодзі Качана, Валодзі Панцялеева.

**— Мяне заўсёды ўражвалі ў мастаках два моманты. Вы, мастакі, усё робіце сваімі рукамі: рамкі, падрамнікі, аплікацыі, паштоўкі розныя. Для вас працаваць рукамі — звыклая справа. Вы вельмі прадпрымальныя і працалюбівыя людзі. Зараз надышоў час прадпрымальнікаў, а мастакі не могуць знайсці ў ім сваё месца. Чаму? Не можаце ад жывапісу адарвацца? Ці немагчыма душу прадаць за метал? Ці хацелі б вы заняцца нейкім бізнесам?**

— Хацеў бы будаваць катэджы ці што-небудзь больш значнае...

**— Лічу, што мастакі правільна робяць, што не адыходзяць ад сваёй духоўнасці, ад свайго мастацтва. Але ваша культура і жаданне працаваць вельмі б спатрэбіліся беларускаму бізнесу: вы б зрабілі яго больш высакародным! Але вернемся да жывапісу. Як вы робіце копіі са сваіх палотнаў?**

— Звычайна не раблю, толькі зрэдку — калі замаўляюць. Аднак, копіі з аднаго і таго ж самага арыгінала — гэта ўжо новыя самастойныя карціны: іх аб'ядноўвае толькі агульны сюжэт. Паглядзіце ўважліва на гэтыя фатаграфіі і параўнайце іх.

**— Як называецца арыгінал?**

— "Настальгія".

**— Гэта Фарны касцёл з усходняга боку. Вы маеце рацыю, гэта тры арыгінальныя карціны!**

— Мне надакучыла паўтараць гэты сюжэт. Таму на другой копіі з'явіліся новыя колеры, больш халодная гама, больш фіялетавага. І карціна глядзіцца зусім па-іншаму.

**— На першай карціне мы бачым Храм Мары, а на другой — будзённае жыццё на брудных вуліцах, па якіх мы ходзім...**



"З'яўленне Анёла плывучым". Тэмпера. 1991.

— ... і горад увесь мокры. У мяне ёсць каталог, выдадзены ў Польшчы тры гады таму. Паглядзіце, але ён ужо троху састарэў...

* * *

"Валерый Стэльмах, 1960 год нараджэння. Удзельнік шматлікіх групавых выстаў у Мінску, Нясвіжы, Вільні, Гродне, Гданьску ў 1978, 1979, 1985, 1988 — 1995 гадах. За перыяд з 1991 і па 1995 гады мае шэсць персанальных выстаў на Радзіме і за мяжой. Зараз жыве ў Гродне, працуе ў тэхніцы жывапісу, графікі і малюнка".

На гэтым, мабыць, і скончым нашу гутарку з гродзенскім мастаком Валерыем Стэльмахам.

**Сяргей КАНУННІКАЎ**

*Гродна*

# У ІМГНЕННІ ДУХ МУДРАСЦІ



У музеі сучаснай беларускай скульптуры імя А.Бембеля адкрылася выстава Анатоля Бачкарова (1942—1997). Творы ўражваюць сваёй чысцінёй і цеплынёй. Столькі філасофіі, жыцця ў гэтых скульптурах! На выставу Анатоля Бачкарова трэба схадзіць, хаця б дзеля добрых эмоцый, рамантычнага настрою. Дрэва, граніт, гіпс у Бачкарова набылі надзвычайную пластычнасць. Вобразы пераплятаюцца, складаюцца ў фантастычныя малюнкі. Але гэта не значыць, што іх энергетыка вясёлая па настроі — не, хутчэй — сумна-рамантычная. Як, да прыкладу, у працах "Абараніць бы", "Апошні стрэл", "Рэха". Непаўторным і запамінальным атрымаўся вобраз Феафана Грэка. Мастак зафіксаваў імгненне, дзе прысутнічае дух мудрасці.

Анатоль Бачкароў дакрануўся да нейкай амаль недасяжнай прыгажосці і, дакрануўшыся, перадаў чароўную сілу сваім творам. Яшчэ не адзін дзесятак гадоў мы будзем раздумваць над гэтым мастацкім феноменам.

**Зміцер ВОЛКАЎ**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



№ 32 16 — 22 жніўня 1997 г.



Вандроўны імпрэсьён

# НЕ ЦУРАЙСЯ НАС, СЛАВЕНІЯ

**У Еўропе ёсць краіна, якая таксама, як і Беларусь, зусім нядаўна, у 1991 годзе, абвесціла аб сваёй незалежнасці. Заўсёды цікава даведацца, куды і як крочыць у сваім развіцці новая краіна, тым больш, як і мы, — славянская. У прапануемых нататках вандроўніцы-славіста, спадзяемся, гэту цікавасць можна спатоліць.**

Што стварае меркаванне аб краіне?

Сукупнасць першых уражанняў яе наведнікаў. Краіне няма куды падзецца ад першага ўражання...

## ПЕРШАЕ ПЕРШАЕ ЎРАЖАННЕ: ЗАБЫЛІСЯ?

Праз пэўны час я ўпершыню траплю ў Рэспубліку Славенія. Я рыхтуюся да першага ўражання. Я смакую наперад сустрэчу з тым, што складае аснову ведаў славіста.

Яшчэ цёплымі падаюцца сляды руху славянскіх плямён па Панонскай раўніне ў Альпы і на Балканы. Ужо ў Венгрыі, на пад'ездзе да запаветнай Славеніі, мяне востра ўсхвалявала найменне населенага пункта Селіштэ. У лацінска-венгерскай яно чыталася неяк зусім па фіна-ўгорску — Sceliste. Потым раптам рэха гэта слова паманіла, стала блізкім і прагучала са стараславянскім "шт", цяперашнім беларускім "шч": селішча. Як яшчэ маглі славяне называць свае першыя вёскі?

Побач — знакаміты азёрны курорт Балатон, ажыўлены пабудовамі для адпачынку і аздараўлення. Але дзесьці на лініі свайго далягляду ён плешчацца хвалямі праславянскага Балотнага возера. Тут жылі продкі сучасных славенцаў. Іх князь Коцэл у 867 годзе запрасіў візантыйскіх місіянераў на панонскія прасторы. Яго захапілі славянскія богаслужэбныя кнігі, якія пераклалі грэкі Кірыл і Мефодзій.



Мне мроіцца фантастычнае перамяшчэнне ў IX стагоддзе, да вытокаў славянскай асвечанасці. На зямлі, дзе я стаю ў чаканні візы, з хрысціянскай місіяй мерылі вёрсты святыя салунскія браты. Здаецца, я дзесьці чула альбо чытала, што яшчэ стаіць на ціхім славенскім скрыжаванні тысячагадовая ліпа, пад якой адпачывалі падарожнікі-місіянеры. Можа, гэтая ліпа расце якраз тут, каля памежнага перахода?

Мае сентыменты спароджаны прынятым славяністычным меркаваннем: славянскі свет, славянскае ўзаемапрыцягненне, славянскае ўяўнае ці яўнае адзінства пачынаецца з Кірыла і Мефодзія.

Але для славенцаў спроба адукаваных грэкаў даць славянскай царкве аўтаномію і мову была толькі эпізодам.

Хрысціянізацыя народаў, якія насялялі ў старажытнасці Паўднёвыя Альпы, пачыналася з рымскіх калоній ужо напачатку I стагоддзя новай эры. Многія славенскія цэрквы, ўзведзены на гары над ракой, адна насупраць адной. Рака і два храмы — сведчанне месца былых паганскіх свяцілішчаў і хрысціянскай выбранасці крыжа.

Славянскае насельніцтва Альпаў і перадгор'я было ахрышчанае франкійскімі місіянерамі з Зальцбурга трошкі раней за прыход на гэтыя землі Кірыла і Мефодзія. Для сучасных славенцаў гэта не проста факт гісторыі — гэта знак таго, што ўжо ў VIII стагоддзі славенцы ўвайшлі ў сям'ю еўрапейскіх народаў, аб'яднаных лацінскай царквою. Гэта ж прамое сведчанне першапачатковага далучэння славенскага народа менавіта да заходняй культуры.

Ветлівыя славенскія памежнікі горда называюцца "царынікі". Яны бездакорна акуратныя. Бездакорна прадуманым і прыгожым здаецца сіне-шэры колер іх формы. Педантычныя славенскія памежнікі павінны ўпусціць мяне ў свет заходняй культуры. Але яны ніяк не могуць прачытаць маё прозвішча ў пашпарце, напісанае з ласкі старой праформы толькі кірыліцай. І я думаю пра сябе амаль без атэізму:"Бог мой! "кірілоувіцоу", якую ў старажытных рукапісах называюць не інакш, як "пісьмена славенскіе", славенцы-то забылі!".

## ДРУГОЕ ПЕРШАЕ ЎРАЖАННЕ: ВІНО

Немцу не трэба далучацца да заходняй культуры Славеніі. Мяжы для яго амаль не існуе. Не перамяшчаецца час, не змяняюцца грошы і пейзажы. Яго першае ўражанне прытупляецца да ўзроўню паездкі да любімай цёткі. Магчыма, славенскі каларыт гэтых земляў нагадвае яму нядзельнае падарожжа з горада ў вёску. Але іншая краіна ёсць іншая краіна, і немец не паедзе дамоў без сувеніра. Што звычайна вязе чалавек з вёскі? Сала і самагон. Немцу па той жа чалавечай логіцы застаецца везці піва, віно і пршут — далікатэснае славенскае вяленае мяса. Але немца цяжка пераканаць везці піва з краіны, дзе прадукуецца толькі дзве яго маркі: "Ляшскае" і "Уніён". Цяжка паверыць, што народ, у якога на губах не прасыхае да ста гатункаў піва штодзённа, аддасць перавагу славенскай піўной пене.



Адным словам, немцу застаецца везці віно і духмянае, пяшчотнае, салодка-салёнае вяленае славенскае мяса. А ці не зашмат? — думае немец. Ён рашаецца на пару бутэлек віна. Колькасць "пара" вызначана славенскай мытняй: віно — нацыянальнае багацце Славеніі.

З маім нямецкім сябрам мы шукаем класнае славенскае віно. Менавіта класнае, бо астатняе віно — добрае, а дрэннага віна ў Славеніі не бывае. Яно бывае вельмі танным і трошкі даражэй. Яно змяняе свой колер ад салатавага да цёмна-жоўтага, хаця традыцыйна называецца "белым". Чырвоныя гатункі згушчаюць колеры ад ружовага да чорнага. Славенскае віно "дыхае" (па-славенску гэта слова значыць "пахне"). І да яго "подыху" трэба прыслухоўвацца, падносячы да вуснаў асаблівыя славенскія фужэры. Для белага віна празрыстыя краі павінны быць прамымі, каб лёгкі водар таксама лёгка вас чараваў. Для чырвонага краі фужэра закругленыя. Пах густога віна абавязкова павінен быць густым. Не спяшайцеся перакульваць келіх за кадык. Культура піцця пшанічнага зелля адрозніваецца ад культуры піцця зелля з вінаграднай лазы. Прыгубіце. "Пажуйце" віно ў роце. Здагадайцеся, калі выціскалі сок з ягад — у жніўні, кастрычніку альбо снежні, пры замаразках? Маладое віно з летняга збору п'юць ужо ў лістападзе, на дзень святога Марціна. Паводле павер'я, 11 лістапада віно дае сілу і здароўе. Піць можна і трэба многа. Пэўна, не выпадкова Марцін прыязджае на белым кані?

Мой нямецкі сябар наадрэз адмовіўся ад "Рэйнскага рызлінга". У "Ляшскім рызлінгу" яму пачуўся пах скошанага сена — прыемны, але на аматара. І мы спыніліся на "Крашскім тэране" — сухім чырвоным віне. Папершае, нас пераканаў старажытнарымскі пісьменнік Пліній, які ў сваіх запісах хваліў "Крашскі тэран" як выдатнае віно. Падругое, у найменні гучала магічнае славенскае слова "крашскія: — зробленае на "красе". Слова "крас" на ўсіх мовах свету гучыць аднолькава, як геаграфічны тэрмін, які абазначае пэўны тып рэльефу. Высакагорны і раўнінны крас — спрасаваны ледніковым холадам марскі ракушачнік — з'яўляецца самай вялікай геаграфічнай славутасцю Славеніі.

Сувенір для нямецкіх сваякоў з усіх бакоў быў цудоўным. Ён быў надзвычай добрым у афармленні: цёмная "стэкляніца" ў форме амфары з надпісам на этрускай мове:"Osti jarej!", а побач — славенскі пераклад — "Ostani mlad!" — "Застанься маладым!" І бутэлька і этрускі надпіс былі данінай навейшае славенскае модзе ў нацыянальным самавызначэнні. Ці славяне славенцы? Яны варварскія прыхадні з усходу? Альбо карэнныя жыхары старога кантынента? Дзе прарадзіма гэтага цывілізаванага еўрапейскага народа: палескія балоты альбо загадкавая Этрурыя, дзе думка ўвасобілася ў літары не ў IX стагоддзі, а нашмат раней? І мовы падобныя: "osti jarej!" — "застанься ярым, маладым!"

# СЛЯЗА ПЯКУЧАЯ АЙЧЫНЫ

Гэты чалавек выразна памятае, што выгрунтоўваць вершы пачаў падчас нярэдкіх у малецці хвароб і недамогаў. Гэты паэт адчувае душэўна-маральнае задавальненне ці не ад кожнага свайго твора, хоць займаецца паэзіятворчасцю ўжо мала не сорак гадоў. Гэты аўтарытэтны навуковец-літаратуразнаўца, з шырокімі мастакоўскімі сувязямі і строгімі патрабаваннямі да сябе і пабрацімаў, жыве ў невялічкім мястэчку пад Беластокам.

Ян Чыквін — вядомы беларускі паэт, прафесар філалогіі, кіраўнік літаб'яднання "Белавежа" і вельмі заняты чалавек... І ўсё ж ён з ажыўленым зацікаўленнем згадзіўся на маю прапанову сустрэцца і пагаварыць. Пра жыццё, літаратуру, час...

...Едучы ў Польшчу па "Вялікім шляху" гродзенскіх чаўнакоў, у юрліва-кантрабанднай мітусні і сумяціцы, я прыгадваў свой "шлях", што вёў да гэтай стрэчы. Напачатку было знаёмства з яго паэзіяй. Знаёмства запланаванае, але ўсё роўна ашаламляльнае. Бо лірыка Чыквіна незвычайная, родная і аддаленая, чужая і знаёмая — але не столькі розуму, колькі душы, сэрцу... Потым была лістоўная лучнасць праз мяжу, для якой гэты заўжды заняты пан беларус, трэба сказаць, не шкадаваў высілкаў і часу.



І вось чаканая сустрэча. Гаварылі многа, пытанняў, думак было шмат — прыватных і агульных, біяграфічных і літаратурнатворчых, нават палітычных. Як сёння без іх...

У асобе Я.Чыквіна, як мне здаецца, спакровіліся шмат якія рысы і асаблівасці гэтага складанага краю. Спаконвечная беларуская разважлівасць і выкшталцоная польская шляхетнасць, еўрапейская цывілізаванасць і ўсходнеславянская сентыментальнасць, сялянская кансерватыўнасць і урбаністычная цяга да камфорту, вопыт сталасці і энергія маладосці...

Тыя пытанні і адказы, што ідуць ніжэй, — толькі малая частка нашай гутаркі.

Чамусьці карцела запытаць у літаратара з багатым творчым вопытам, ці не папраўляе ён ранейшыя свае вершы, ці задаволены імі сёння. Пан Ян нібыта быў падрыхтаваны да адказу:

— Я думаю, папраўляюць творы таму, што ёсць магчымасць выдаваць іх у форме кніжак. У мяне, у нас "белавежцаў", такой магчымасці няма. Да раз выдадзенага фактычна мы больш не звяртаемся. Ды ў мяне і няма жадання папраўляць. Я старымі вершамі задаволены. Хоць гэта задаволенасць іншая, чымсьці задаволенасць новымі вершамі ці тымі, над якімі працуецца. У мяне няма адчування, што я ахвотна адрокся б ад сваіх тэкстаў. А можа, гэта тым выклікана, што, чытаючы нават свае ранейшыя вершы, я ўкладваю ў іх іншы сэнс. Я прачытваю іх інакш, і яны мяне таксама ў нейкай ступені задавальняюць...

Тонкі лірык, Ян Чыквін, як вядома, пачынаў з празаічных твораў. Пісаў невялікія апавяданні — актуальныя для свайго часу, друкаваў іх пад псеўданімамі (да прыкладу, Янка Дубіцкі і інш.). Але потым была толькі паэзія, і прытым амаль спрэс лірыка. Відаць, адсюль у мяне і ўзнікла наступнае пытанне: а ці не звяртаўся паэт да прозы ў паслейшую пару? Няўжо не было нутраной патрэбы на тое?..

— Часам хацелася, але заўсёды адкладваў. Каб сесці за прозу, трэба мець свежую галаву і вольны час. І, пэўна, яшчэ нешта, што не названа, не вызначана... Я лічу, што проза — з'ява дэмакратычная. Трэба мець і адпаведную ментальнасць — каб жыць жыццём іншых людзей. А займацца паэзіяй — элітарны занятак, які, відаць, спалучаны з маёй псіхікай. Мне лепш выказвацца ў паэзіі. А проза... Проза перакладальная, а паэзія — не. Паэзію можна прачытаць і перажыць, а на іншы спосаб яна неперакладальная...

Сапраўды, трэба пера-



Мне падабаецца хмельнае славенскае віно. Я хачу навучыцца культуры піцця віна. У нас іншая культура — культура піцця гарэлкі.

### ТРЭЦЯЕ ПЕРШАЕ ЎРАЖАННЕ: "RUTHENUS"

Не ведаю, як у часы вялікага перасялення славян, але ў XIX стагоддзі рэдкі беларус заходзіў у Славенскі край. Адзін з іх, бясспрэчна прынёс і пакінуў на далёкіх альпійскіх землях славянскую культурную спадчыну, узбагаціў народныя скарбы Славеніі бясцэнным дарам, дзе мова, вера, пісьменнасць аб'яднаныя ў паняцці "стараславянскі".

Імя беларуса — Міхаіл Баброўскі. "Уніяцкі духоўнік з Вільні", славіст і арабіст, вядомы перадусім тым, што адкрыў навуцы старабалгарскі Супрасльскі рукапіс, помнік пісьменнасці XI стагоддзя, адну з самых старых у свеце кніг, напісаных кірыліцай на пергаменце.

Сваю нацыянальнасць Баброўскі вызначаў словам "Ruthenus", што пакідае права лічыць яго ні палякам, ні рускім, а беларусам.

У 1817—22 гг. па стыпендыі Віленскага універсітэта Баброўскі, ён быў ва ўзросце Хрыста, накіраваўся ў Еўропу вывучаць тэалогію і старажытныя мовы. Пабываў у Парыжы, Дрэздэне, Празе, Вене, Рыме, Падуі, Венецыі.

З аўстрыйскага Граца трапіў у аўстрыйскую Любляну. Яго запрасіў на сустрэчу мовазнаўца-славенец Ерней Копітар. У тыя часы гарэлі ў агні духоўныя кнігі на славенскай мове, было мала славенскіх граматык і рэдка хто выкладаў славенскую мову ў нямецкамоўных школах і універсітэтах. Славенцы-патрыёты рупіліся аб захаванні сваёй мовы і культуры і вызначалі сваю самабытнасць на фоне агульнаславянскай культурнай спадчыны.

Першыя ўражанні Міхаіла Баброўскага аб Славеніі адыгралі сваю ролю. Па вяртанні з падарожжа Баброўскі знаходзіць у 1823 годзе ў грэка-каталіцкім Супрасльскім кляштары каля Беластока стары кірылаўскі кодэкс. Уражанне беларуса аб моўнай працы славенцаў было настолькі моцным, што ў 1839 годзе даследчык славянскіх старажытнасцяў Копітар атрымаў ад Баброўскага дзве часткі знакамітага стараславянскага рукапісу. Копітар вярнуў яму толькі адну. Другую пакінуў сабе, папрасіў падзяліцца са славянскім братам. 118 пергаментных аркушаў захоўваецца цяпер у Нацыянальнай і універсітэцкай бібліятэцы Любляны, 151 аркуш у Варшаве, 16 у Санкт-Пецярбургу. Кожны славянскі брат атрымаў па кавалку. Беларусі, праўда, не дасталося і лісціка.

### ЧАЦВЁРТАЕ ПЕРШАЕ ЎРАЖАННЕ: "ЕЎРОПА НА ДАЛОНЬЦЫ"

Дарэчы, у сваіх навуковых справаздачах аб падарожжы ў Славенію Міхаіл Баброўскі звярнуў увагу на вялікае падабенства славенцаў і беларусаў; ёсць падобнасць у нашых народных архітэктурных элементах.

Мне падалося дзівосна роднаснай легенда пра назвы славянскай Белай Краіны і Беларусі. Бела Краіна — вобласць на паўднёвым усходзе Славеніі. Памежны раён з Харватыяй. Тут пражывае ўсяго 15 тысяч чалавек. Сваю назву гэты маленькі край тлумачыць праз традыцыйнае льняное адзенне. Яго насілі тут па святах аж да пачатку 2-й сусветнай вайны. Ільняное палатно ткуць у Белай Краіне і да гэтага часу, толькі самабытнае рамяство забываецца і сыходзіць у музеі.

Больш рамантычныя этымолагі звязваюць корань "бела" з белымі стваламі бяроз. Бярозавыя гаі — характэрны пейзаж Белай Краіны. Ну чым Бела Русь не Бела Краіна?

Уся Славенія, аднак, не настолькі аднастайная, як Беларусь. Яна падобная да стракатай мазаікі — народаў, традыцый, пейзажаў.

Хто любіць Славенію, называе яе садам Еўропы, Еўропай у мініяцюры, Еўропай на далоньцы. На невялічкай плошчы (20256 квадратных кіламетраў — усяго толькі 0,2 працэнта ад тэрыторыі Еўропы) прадстаўлены ўсе элементы прыроды і рэльефу старога кантынента: горы, раўніны, лясы, палі, марское ўзбярэжжа і мноства рэк.

Са шматстайнасці прыроды паходзіць гістарычная, культурная, этналагічная і дыялекталагічная стракатасць гэтай зямлі. Цяжка ўявіць такую шматаблічнасць у краіне, дзе пражывае толькі 2 мільёны чалавек.



Прыродная стракатасць на малой прасторы — асноўная перавага Славеніі. Вока не перастае здзіўляцца пераўтварэнням прыроды гэтага краю.

Нацыянальны славенскі пісьменнік Іва́н Цанкар у пачатку XX стагоддзя пісаў пра Славенію: "Бог з усходу на захад хадзіў па зямлі і трос з мяшка чары і прыгажосці прыроды, пакуль не спатыкнуўся аб шэрыя пустынныя горы. Раскінулася змрочная ўбогая зямля і прасіла ў Госпада літасці, любові, сонца. І ён вытрас з мяшка ўсё, што ў яго засталося — розных дзівос і чар па-трошку; пасеяў, вырасціў Славенію."



Адзін англічанін, зачараваны прыгажосцю маленькай краіны, у якую трапіў упершыню, шэптам сказаў свайму сябру-славенцу:"Не прызнавайцеся нікому, што вы тут жывяце".

Але Славеніі цяжка ўнікнуць спакусы паказаць сваю прыгажосць турыстам. Яна таксама не губляе надзеі застацца краінай экалагічнай чысціні. Як гэта сумясціць? Здаецца, маленькая прадпрымальная і ўдачлівая краіна зноў знайшла выхад на сваю карысць: яна хоча быць краінай кангрэснага турызму. Гэта значыць, госці будуць адначасова ўдзельнікамі розных культурных праграм, фестываляў, навуковых канферэнцый, сімпозіумаў, з'ездаў, святаў. Абавязковая ўмова гэткага турызму — высокі культурны ўзровень мерапрыемства. Насычаная і вытанчаная праграма выходзіць на вуліцы гарадоў. Экскурсію па сталіцы Славеніі — Любляне можа правесці вядомы прафесар Люблянскага універсітэта. Многія людзі могуць паслухаць канцэрты знакамітых музыкантаў пад адкрытым небам. І не трэба плаціць за квіткі, і гарадскі транспарт спыняецца, каб не перашкаджаць гукам музыкі. Славенія ўсімі сіламі стараецца зрабіць свой унёсак у еўрапейскія культурныя традыцыі. Стараецца падкрэсліць сваю самабытнасць, адукаванасць, цывілізаванасць. Стараецца прапанаваць свету кнігі пра сябе, падручнікі сваёй мовы. Стараецца адкрыць свае межы і сэрца.

Праз пэўны час я ўпершыню патраплю ў Рэспубліку Славенія ў ролі тыповага кангрэснага турыста. Я рыхтуюся да першага ўражання. Я пакуль не думаю аб тым, якое ўражанне склалася б у славенцаў на парозе Беларусі.

**Інэса КУР'ЯН**

---

жыць, я б сказаў — выпакутаваць...

*Буслы і коні на волі.*
*І неспадзёўка ў грудзях,*
*да болю,*
*Шчым зашчыміць, нібы так,*
*без прычыны...*
*А гэта, як цельца карала,*
*На душу апала*
*Сляза пякучая айчыны.*
*("Сляза арабіны")*

Гэта іх, "белавежцаў", сітуацыя. Няпростая, калі не сказаць — цяжкая сітуацыя... Жывучы ў бацькоўскім краі, яны не могуць поўнасцю адчуць сваю духоўную еднасць з Радзімай. Бо яны — беларусы, што жывуць у Польшчы. Быў уздым грамадска-культурнай думкі, на хвалі якога і ўзнікла "Белавежа", выдаецца беларуская "Ніва", але ў душы "шчым шчыміць"...

Вершы Я.Чыквіна перакладалі на рускую мову ("Неман", 1994, № 11), выйшла некалькі зборнікаў на польскай мове, багата іх выдрукавала польскамоўная перыёдыка. Кола ягоных чытачоў досыць шырокае, бо зацікаўлены паэзіяй Чыквіна і Масей Сяднёў, і Шырын Акінэр у Аўстраліі, і іншыя. І ўсё ж праблема чытач — паэт, праблема патрэбнасці творцы ў чытачу ўзнікла ў гаворцы. Не магла не ўзнікнуць. Паэт у задуменні разважае:

— Праўда недзе пасярэдзіне. У працэсе — не, не патрэбен. А потым, канешне, ёсць нейкае задавальненне. Я маю ўнутраную патрэбу пісаць вершы, ствараю для сябе. Я як бы змагаюся з нечым. Ведаю, адчуваю, што чагосьці такога, што зараз з'явіцца, няма ў прыродзе. І яно з'яўляецца... А потым ужо — публікацыя, разуменне, што нехта прачытвае. Але гэта не найважнейшае...

Так жыве і працуе паэт. Жыве ад творчасці, пачатак усяго для яго палягае ў ёй. Таму змены эпох і фармацый, агульных ідэалаў і арыенціраў не могуць засланіць гэтага святла.

*Гарыць мая свяча.*
*Ад скразняку-прайдохі,*
*Што дзьме і хоча здзьмуць*
*жывое цельца,*
*Шчэ болей раз'ярацца агонь і*
*выгіб полымя, здаецца,*
*Адным сваім святлом*
*змагацца з пачварным*
*воблікам эпохі.*

**Анатоль РАМАНЧУК**
*Бельск — Гродна*

---

***Нам бы іх клопаты!***

## МОЛАДЗЬ ПАКУТУЕ АД НЯСТАЧЫ?

Федэральны міністр Нямеччыны па праблемах моладзі Клаўдыя Нольтэ заклапочана праблемай... знясілення маладзёжнай часткі насельніцтва краіны. Калі б пра гэта заявіў "аналагічны" міністр у краіне трэцяга свету — гэта было б "нармальна". Але ў Нямеччыне?! Гучыць, як няўдалы жарт. Немцы па праблеме харчавання ўжо многія дзесяцігоддзі ніжэй трэцяга месца ў свеце не апускаліся: ні ў колькасці, ні, што больш істотна, у якасці. І тут — своеасаблівы вынік мінулага года: знясіленне моладзі, звіязанае з харчаваннем. І гэта не проста словы, а вынікі навуковых даследаванняў, факты, лічбы. За апошнія два гады (апытанне 2000 юнакоў і дзяўчат ва ўзросце ад 13 да 19 гадоў) выявіў: у Нямеччыне прыжылася "маладзёжная мода" — абыходзіцца без сняданкаў, не абедаць, перакусваючы шакаладам, а ўвечары ля тэлевізара — чыпсы. Гародніна, садавіна, рыба, сыр, малако, ёгурты, хлеб — не карыстаюцца попытам сярод гэтай узроставай групы. Вынік: моладзь пакутуе ад нястачы ў арганізме жалеза, кальцыя, вітамінаў. Дзяўчаты "больш за смерць" палохаюцца тлустасці. У многіх пасля "выпадковай" ежы міжволі ўзнікаюць ваніты. Ды і як жа ім не ўзнікнуць, калі з самага маленства дзяўчынкі назіраюць, як іхнія мамы пасля кожнага прыёму ежы штучна выклікаюць у сябе ваніты.

Сотні людзей, спецыяльныя выданні, накірункі ў модзе, штодзённая прапаганда ў сродках масавай інфармацыі, стэрэатыпы, што ўкараніліся ў свядомасці, стварылі эталон жаночай прыгажосці — не проста зграбная жанчына, а жанчына хударлявая. А тут яшчэ такі "дадатак": паленне спрыяе пахудзенню. Звычайны выгляд брэменскіх вуліц: школьнікі (часцей школьніцы) гуртом ідуць з заняткаў і амаль усе паляць.

Больш за тое, пачала "працаваць" легенда, якая вывела праблему за межы эстэтыкі — прыгожая постаць альбо не — у вобласць сацыяльную. У дзяўчат-падлеткаў зграбнасць (хударлявасць) спрыяе паспяховай кар'еры. Калі ведаць, што гэта азначае ў Нямеччыне, дык робіцца зразумелай трывога федэральнага міністра і не толькі яго.

Цяжка ўявіць, як змагацца з гэтым добраахвотным павольным самазабойствам, калі ўся індустрыя — ад вытворчасці прадуктаў харчавання і касметыкі да тэхналогіі вольнага часу і сексу — трымаецца, нібыта ваўчок, на адной "кропцы": зграбнасць, хударлявасць.

Мы гутарылі пра гэта з адным вядомым у Брэмене ўрачом. "Каго яны будуць нараджаць, калі здолеюць?" — рытарычна запытаўся ён у мяне.

75 працэнтаў нямецкіх жанчын лічаць сваю вагу занадта вялікай. 45 працэнтаў "сядзяць" на дыетах. А дзеці бяруць прыклад з дарослых. А ў выніку — эфект рэзка адмоўны, супрацьлеглы пажаданаму. Арганізм сістэматычна недаатрымоўвае найважнейшыя элементы для падтрымання нармальнага існавання, зніжаецца жыццёвы тонус. Страчваецца супраціўленне хваробам, робіцца больш цяжкім працэс выздараўлення. Што ўжо казаць пра галаўны боль, мігрэні і праблемы са страўнікам. Звычай, дзяўчынкі (хлопчыкі) з сіндромам пахудзення заўважныя ў натоўпе: у іх нездаровы колер твару, бляклыя валасы, нясвежая, "састарэлая" скура. І, безумоўна, пачынаюць моцна "падводзіць" нервы. Пра якую працаздольнасць і ўспрыняцце ведаў можна казаць, калі такія хлопцы і дзяўчаты здольныя засяродзіць увагу не больш, чым на 3—5 хвілін. Клаўдыя Нольтэ лічыць, што неабходна перабудаваць усю эстэтычную арыентацыю. Капаць тунель давядзецца з двух бакоў: альтэрнатыўныя ідэалы трэба ствараць і прывіваць як дзецям, так і дарослым. Як гэта зрабіць? Пытанне, на якое пакуль ніхто не можа даць адказу. Уявіце, што трэба зрабіць з тэлебачаннем, кнігадрукаваннем, журналістыкай, модай, мадэлямі, харчовай і лёгкай галінамі прамысловасці... Пералічваючы, можна дабрацца і да палітыкі, і да палітыкаў...

Праўда, адна кропка адліку міністрам ужо знойдзена: калі мамы хочуць выратаваць сваіх дзяцей, яны павінны кінуць уздыхаць пра сваю страчаную зграбнасць і пачаць сачыць за нармальным харчаваннем дзіцяці. Пакуль пачне круціцца механізм дзяржаўнай праграмы выратавання тынэйджэраў, якой пакуль не існуе нават у праекце, — трэба рабіць хаця б гэта.

... Уявіў я сабе ўзнікненне такое праблемы на Беларусі і міжволі засмяяўся. Невясёлы гэта быў смех.

**P.S.** Не толькі падлеткі хочуць тут пахудзець (але не ведаюць як), але і крамы таксама: з усіх дзвярэй, ва ўсіх кутах — шакалад і бялізна, машыны і тэлевізары, ложачкі для катоў і чырвоная рыба, бутэлькі і таблеткі, чаравікі і канапы... Крамы таксама цягне ванітаваць. А дзеці грамадства звышспажывання хварэюць на свае хваробы. І ў міністраў хапае клопатаў.

**Навум ЦЫПІС,**
**уласны карэспандэнт "Культуры" ў Германіі.**

ЛІШНЕ КАЗАЦЬ!

# СУЧАСНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ РЫЦАРЫ ПРАЙШЛІ ШЛЯХАМ СВАІХ ПРОДКАЎ



Парад удзельнікаў бітвы.



Сутычка абаронцаў з перадавым атрадам Яна Жыжкі.

Слаўныя подзвігі нашых продкаў заслугоўваюць таго, каб іх помнілі. Судатыкнуцца з гістарычнай памяццю беларусаў праз паўтысячагоддзя ўдалося хлопцам з Вайскова-гістарычнага клуба "Kalumny". Па запрашэнні сваіх чэшскіх калег з клуба "Streitax" ("Баявая сякера") яны ўзялі ўдзел у рэканструкцыі бітвы пры Млазавіцэ — мястэчку, узятым у 1424 годзе войскамі Яна Жыжкі. Гістарычнымі дакументамі пацверджаны ўдзел у гусіцкіх войнах беларускіх ваяроў пад началам князя Жыгімонта. На



Штурм замка.

працягу васьмі гадоў ваявалі нашы рыцары за свабоду Чэхіі. Дамоў ніхто з іх не вярнуўся...

Штогод улетку 30 чэшскіх вайскова-гістарычных клубаў збіраюцца на сваю сустрэчу і ствараюць грандыёзнае відовішча, якое максімальна адпавядае бітвам сярэднявечных гусіцкіх войнаў. На гэты раз каля двухсот пяцідзесяці закаваных у жалеза рыцараў пад гром бамбардаў на працягу некалькіх гадзін штурмавалі "замак", пастаўлены арганізатарамі з бярвенняў за тыдзень на тым самым месцы, дзе ён стаяў і ў XV стагоддзі.

Тройчы хваля атакі накатвалася на цытадэль. Крыжакі зацята абараняліся. У першых шэрагах гусіцкіх аддзелаў у адчайнай сутычцы секліся рыцары з "Калюмнаў". Магутнымі ўдарамі алебардаў яны здолелі прабіць замкавую сцяну, і лёс абаронцаў тым самым быў вырашаны.



Бойка на полі пасля ўзяцця замка.



Швейцарская пехота — яны палеглі апошнімі.

Сучасныя рыцары з Беларусі выразна прадэманстравалі, што яны вартыя сваіх ваяўнічых продкаў — чэхі літаральна на сабе ацанілі высокі ўзровень баявой падрыхтоўкі нашых хлопцаў. Не абышлося і без невялікай крыві: фехтаванне на мячах — жорсткі від "спорту". Аднак беларусаў палюбілі ў Чэхіі не толькі і не столькі за тое, што яны б'юцца "на смрт", а ў першую чаргу за добры вясёлы характар і гатоўнасць прыйсці на дапамогу (двое нашых дзецюкоў ад самога пачатку працавалі на будоўлі замка).

У адрозненне ад сярэднявечных падзеяў цяпер на радзіму вярнуліся ўсе беларусы. У планах байцоў з "Калюмнаў" — "паход" у Чэхію на наступны год.

**Ігар МІХНО**
**Фота Андрэя НІКАЛАЕВА**

# ЗОРКІ — "ЗОРКАМ"

## Астралагічны прагноз для творчых людзей на перыяд з 18 па 24 жніўня.

*Гэты тыдзень можна назваць адным з праблематычных у жніўні. Яго падзеі будуць супярэчлівымі, і ў большасці людзей застанецца пра іх сумбурныя ўражанні. Пачатак тыдня паставіць практычна перад усімі праблему: як знайсці баланс паміж здаровым сэнсам, рашучасцю, ініцыятыўнасцю і жаданнем ствараць, з аднаго боку, і пасіўнасцю, лянотай, імкненнем акунуцца ў ціхую спячку і спробамі зацыкліцца выключна на будзённых справах — з другога. Існуе вялікая верагоднасць прыняцця няслушных рашэнняў пад уплывам пачуццёвай экзальтацыі. Часцей за ўсё падзеі прымусяць кінуць старыя стэрэатыпы паводзін і дзейнічаць, улічваючы толькі сучасны момант.*

*Спробы звесці ацэнкі сітуацый да наяўнага вопыту не дадуць дасягнуць поспеху і могуць спрычыніцца да з'яўлення тупікоў і адчування бескарыснасці намаганняў. Між тым тыдзень будзе несці ў сабе вялікі патэнцыял паспяховасці. А здольнасць нягледзячы ні на што захаваць вернасць раней намечаным планам і жаданне прыкласці намаганні для іх рэалізацыі стане залогам поспеху для тых, хто не любіць пустога чакання манны нябеснай. Таму тым, каго на гэты час агорне пасіўнасць, лянота і жаданне кінуць усё і аддацца цячэнню будняў, рэкамендуецца часцей узгадваць вядомае выслоўе: "Той, хто хоча штосьці стварыць, знаходзіць сродкі і шляхі, той жа, хто не хоча,— "аб'ектыўныя "прычыны сваёй нямогі". У сярэдзіне тыдня ўсталюецца атмасфера ўзнёсласці і надзеі на лепшае. Дадзены перыяд будзе, відаць, самым прадуктыўным. Найбольшых поспехаў дасягнуць тыя, хто здольны да любой справы падысці творча, прадэманстраваць нестандартныя спосабы ўспрыняцця ўмоў і арыгінальныя метады рашэння пастаўленых задач. Гэта значыць, што ўменне вытрымаць свой стыль, нават калі ён камусьці не даспадобы, і здольнасць у кожнай, самай руціннай працы ўбачыць знічку Божага Промыслу стануцца неадольнай неабходнасцю для многіх з нас. Час спрыяльны для правядзення рознага кшталту відовішчаў, прэзентацый і творчых сустрэч. Да выхадных дзён абставіны пагоршацца. Шмат каго ахінуць прыступы беспрычыннай раздражнёнасці і ўсплёскі нематываванай агрэсіўнасці. Гэтыя дні будуць напоўненыя ўсялякімі выпадковасцямі, таму не варта на працягу іх уключацца ў розныя дыспуты і займацца сур'ёзнымі справамі. Лепей за ўсё спакойна адпачыць, адклаўшы ўдзел у шумных кампаніях да больш спрыяльнага моманту.*

АВЕНАМ не варта на пачатку тыдня занадта сур'ёзна зважаць на заўвагі скептычна настроенага атачэння. Смела тварыце і рызыкуйце. У яго сярэдзіне адмоўцеся ад стандартных падыходаў у даследаваннях. Паспрабуйце знайсці свежы спосаб у авалоданні майстэрствам.

ЦЯЛЬЦАМ неабходна на пачатку тыдня выявіць прыроджаную ўпартасць і не дапусціць лянноты ў сітуацыях, якія патрабуюць завяршэння ўласных напрацовак. Таму карысна дакрануцца да культурнай спадчыны і навучыцца сяму-таму ў продкаў. На сярэдзіне тыдня вас чакаюць унікальныя магчымасці ў прыгодах, пацехах і раманах. Зразумела, калі вы здольныя па-новаму зірнуць на азарт і рызыку.

БЛІЗНЯТАМ патрэбны будуць уседлівасць і цярплівасць у працы з літаратурай і пры аналізе навін. Не губляйце таксама ініцыятыву ў кантактах і зборы рознага кшталту інфармацыі. Знаёмствы, якія вы самі завяжаце, будуць мець цудоўныя перспектывы, а здабытая інфармацыя стане падмуркам наступных пачынанняў. Сярэдзіна тыдня падорыць вам новы погляд на традыцыйныя рэчы і помнікі даўніны.

РАКАМ не раім на пачатку тыдня "хаваць галаву ў пясок" пры вырашэнні пытанняў, звязаных з узнагароджаннем за "труды праведные". Не паддавайцеся ілюзорнаму адчуванню бездапаможнасці, а смялей і больш упэўнена заяўляйце пра сябе і ў сярэдзіне тыдня. Толькі ў такім выпадку вас чакае поспех.

ІЛЬВЫ! Здолейце згарманізаваць вашую актыўнасць і жаданне падпарадкаваць сабе публіку на пачатку тыдня. Будзьце спагадлівыя пры вырашэнні пытанняў, звязаных як з вашымі, так і чужымі аўтарскімі правамі. Калі праявіце гібкасць, дык у сярэдзіне тыдня выявіце зусім нечаканыя падыходы для дасягнення творчага росквіту.

ПАННАМ рэкамендуецца старанна зберагаць сваю інтэлектуальную ўласнасць на пачатку тыдня. Пастарайцеся не разносіць на ўвесь свет пра творчыя задумы і напрацоўкі, якія яшчэ толькі выспяваюць у вашай галаве. У сярэдзіне тыдня не ўпусціце унікальных магчымасцей незвычайнай прэзентацыі сваіх пачынанняў.

ШАЛЯМ трэба захаваць вернасць сваім доўгатэрміновым планам, творчым задумам і ідэям на пачатку тыдня. Не прамяняйце жорава ў небе на сініцу, якая так і не даляціць да вашых рук. У сярэдзіне тыдня здолейце рэалізаваць свае творчыя натхненні, якія ў вас абавязкова ўзнікнуць.

СКАРПІЁНАЎ падсцерагае на пачатку тыдня небяспека размяняцца на дробязі, гэта можа пацягнуць за сабой дрэнную славу і стварыць праблемы ў дасягненні папулярнасці. У сярэдзіне тыдня вашыя творчыя напрацоўкі, планы і праекты могуць падацца ў зусім нечаканым святле. Вы іншым чынам разгледзіце і свае стасункі з братамі па творчасці.

СТРАЛЬЦЫ павінны на пачатку тыдня пераадолець жаданне пасібарыцтваваць і звярнуць увагу на ідэалы і перакананні, якія рухаюць іх па творчым шляху. Своечасовая праца над ужо састарэлым дазволіць унікнуць творчых тупікоў у будучыні. У сярэдзіне тыдня вы зможаце вышукаць зусім арыгінальны спосаб дасягнення папулярнасці. Зразумела, калі не замяніце пошукі пустым філасафаваннем.

КАЗЯРОГІ на пачатку тыдня могуць трапіць у нерат няўпэўненасці ў сваіх здольнасцях. Калі вы адмовіцеся ад добрай порцыі аптымізму, ілюзія здольнасці ствараць атрымае магчымасць перарасці ў навязлівую ідэю і пазбавіць вас веры ў сваю мару. У сярэдзіне тыдня вы здолееце разгледзець уласныя духоўныя пошукі ў нечаканым ракурсе. Дазвольце сабе прыемна здзівіцца і прыняць гэтае новае бачанне свету.

ВАДАЛЕІ здольныя паддацца часовай слабасці і набыць непрыемнасці пры адстойванні сваіх аўтарскіх правоў. Пазірайце ў гэты час зверх эмоцый і блізкай выгады. У сярэдзіне тыдня дзякуючы даверу да плыні жыцця і жадання плыць па ёй у яхце сваёй мары вы адчуеце прыліў свежых творчых сіл. Успрыміце яго як крэдыт лёсу для наступных здзяйсненняў.

Залішняя падазронасць і недаверлівасць могуць перашкодзіць РЫБАМ па-майстэрску падысці да рашэння творчых задач на пачатку тыдня. "Больш веры ў свае здольнасці і навыкі і менш непатрэбных сумненняў і таптання на адным месцы!" — такі ваш дэвіз на гэтым тыдні. Кіруючыся ім у яго сярэдзіне, вы здолееце адшукаць раней не ўласцівыя вам спосабы ўзаемадзеяння з публікай.

**Аляксей КАРПІНСКІ,**
**супрацоўнік "Акварыуніверсітэта"**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3450.

Падпісана ў свет 14.08.97. у 15.30.

Замова 4713

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**